


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

13 лютага 2004 года

№ 7 (460)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года


Тэлетыдзень 15

## Навіны рэгіёну

### Загінулі людзі

**ВІЛЕЙКА.** У вёсцы Мардасы Хаценчыцкага сельсавета здарыўся пажар, у выніку якога загінулі два чалавекі: 56-гадовы гаспадар і яго жонка 1958 года нараджэння. Па папярэдніх звестках, прычынай трагедыі стала курэнне ў ложку.

**Марына СЛІЖ.**

### Забаставалі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Частка прадпрымальнікаў з рэчавага рынку 12 лютага не выйшла на работу. Забастоўка праходзіць у падтрымку віцебскіх прадпрымальнікаў, якія галадаюць, пратэстуючы супраць запланаванага павышэння мытных плацяжоў і ўвядзення касавых апаратаў на рынку.

**Святлана ЦІШКО.**

### Клас харэаграфіі

**АШМЯНЫ.** У Ашмянскай дзіцячай школе мастацтваў упершыню адкрылі клас харэаграфіі, у які запісаліся 54 хлопчыкі і дзяўчынкі. Заняткі ў ім, падзяліўшы дзяцей на 4 групы з улікам змен, вядзе маляды спецыяліст **Таццяна Гайдановіч**. У хуткім часе юныя танцоры збіраюцца выйсці на сцэну.

**Марына СЛІЖ.**

### Дапамога ўдовам

**ВАЛОЖЫН.** Па 160 тысяч рублёў выдзеліў Валожынскі райвыканкам сем'ям воінаў, якія загінулі ў Афганістане, напярэдадні 15-годдзя вываду савецкіх войск з гэтай краіны. Да таго ж упершыню па 80 тысяч рублёў атрымалі 4 удавы, што страцілі мужоў у мірны час.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Вінаваты снег

**СМАРГОНЬ.** 23 сельскагаспадарчыя аб'екты пацярпелі ў раёне ў выніку снегападаў. Цалкам разбураны дах цялятніка ў вёсцы Дабраўляны, часткова зерняскладa ў Вялікай Мосе і інш. Агульны ўрон склаў больш за 32 мільёны рублёў.

**Марына СЛІЖ.**

### Камп'ютэрны клас

**МЯДЗЕЛ.** Новы сучасны камп'ютэрны клас атрымала сярэдняя школа №3 горада. У яго ўваходзяць 13 камп'ютэраў, прынтэр, сканер. Набыта тэхніка за грошы, выдаткаваныя з раённага бюджэту.

**Марына СЛІЖ.**

### Астраўчане ў лідэрах

**АСТРАВЕЦ.** Трэцяе месца ў Гродзенскай вобласці занялі медыкі раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання па выніках работы за мінулы год. Падводзіліся яны, як расказалі ў РТМА, па 50 паказчыках. У падарунак калектыў атрымаў сушыльную шафу і прэмію — 300 тысяч рублёў.

**Марына СЛІЖ.**

# Дзеці з прытылку

## Месяц як працуе ў Мядзеле прытулак для абяздоленых дзетак

**МЯДЗЕЛ. Месяц таму адчыніўся дзіцячы сацыяльны прытулак для часовага знаходжання дзяцей, што апынуліся ў экстрэмальнай жыццёвай сітуацыі.**

Падобныя ўстановы ў рэгіёне працуюць ужо некалькі гадоў. Напрыклад, прытулку ў вёсцы Краснае Маладзечанскага раёна ўжо 3 гады, а маладзечанскаму сацыяльна-педагагічнаму цэнтру больш за 8 гадоў.

Мядзельскі прытулак размясціўся ў будынку дзіцячага сада №1. Яго былыя выхаванцы і частка выхавацеляў перайшлі ў іншыя дашкольныя ўстановы. А яго загадчыца **Тамара Віннік** засталася, стала кіраваць прытулкам. «Цяпер у мяне дзве сям'і», — сказала яна ў інтэрв'ю «РГ». Тамара Віннік расказала, што праводзіць рэканструкцыю д/с №1 дапамагалі гарадскія арганізацыі (будаўнічыя, дарожныя і іншыя), усе аздобныя работы выканаў калектыў прытулку. Гараджане сабралі дзіцячае адзенне і цацкі, райвыканкам падарыў тэлевізар. Мядзельчанін **Сяргей Захарэвіч** сам вызваўся аздобіць сцены медыцынскага ізалятара. Спонсараў у прытулку няма, толькі шафы — Мядзельскі навучальна-вытворчы камбінат, які часам дапамагае матэрыяльна і транспартам.

На пытанне, ці было лягчэй на папярэдняй рабоце, Тамара Віннік адказала, што любая праца адказная. Але адзначыла: «З бацькамі садаўцаў мне было лёгка, яны разумелі мяне і дапамагалі. А бацькам выхаванцаў прытулку мы павінны дапамагчы. Да таго ж ёсць дзеці-сіроты, якім трэба замяніць сям'ю, дапамагчы адаптавацца».

Мядзельскі прытулак разлічаны на 15 чалавек ад 3 да 15 гадоў. Дзеці трапляюць у яго па накіраванні органа апекі раённага аддзела адукацыі і могуць жыць там не больш за 6 месяцаў. Менавіта столькі часу маюць бацькі (яны звычайна ніdзе не працуюць і любяць выпіць) на тое, каб абдумаць, наладзіць сваё жыццё. У гэтым ім дапамагаюць работнікі прытулку: аднаго лечаць ад алкагалізму, іншым падбіраюць работу. Дзеці вяртаюцца дадому, калі бацькі гатовыя клапаціцца пра іх. Пасля гэтага яшчэ месяц сацыяльныя педагогі назіраюць за сям'ёй. Досвед вілейскага прытулку паказаў, што некаторыя сем'і можна вырататаваць.

Але бываюць і такія бацькі, якія забываюцца пра дзяцей: маўляў, дзяржава дагледзіць і выхавае. У такім разе работнікі прытулку шукаюць апекуна або прыёмную сям'ю. Інтэрнат, — сказала Тамара Віннік, — апошні варыянт: яны ў нашай краіне і так перапоўненыя.

Цяпер у мядзельскім прытулку жывуць 8 выхаванцаў: 4 хлопчыкі і 4 дзяўчынкі. Для іх ёсць пакой адпачынку з тэлевізарам, 3 спальні, медыцынскі ізалятар, калі хто захварэе, спартыўна-музычны пакой з цацкамі. На харчаванне кожнага ў студзені выдаткоўвалася ад 2285 да 2620 рублёў у дзень у залежнасці ад узросту.

Раніцай школьнікі ідуць у школу. Настаўнікі займаюцца з імі дадаткова, сказала Тамара Віннік, бо яны звычайна дрэнна вучацца. Пасля абеду шмат хто з іх наведвае гурткі дзіцячага Дома творчасці, адзін хлопчык — спартыўную секцыю. Дзеці дашкольнага ўзросту застаюцца ў прытулку. З імі па праграме дзіцячага сада займаецца выхавацель.

На першым паверсе будынка стаіць тэлефон, сваякі дзяцей могуць тэлефанаваць ім. Не ўсе гэта робяць. Але, напрыклад, пяцікласніцы **Святлане** пашанцавала: ёй тэлефануе бабуля. А нядаўна яна прыслала ўнучцы 10 тысяч рублёў. Разам з сацыяльным педагогам дзяўчынка рабіла пакупкі, вучылася распараджацца грашыма. Спачатку купілі новыя тапачкі, пасля — пячэнне, арэхі і іншыя прысмакі. Напэўна, Света стане добрай гаспадыняй: пасля паходу на рынак і па магазінах з 10 тысяч у яе яшчэ засталіся грошы на кішэнныя расходы.

**Святлана ЦІШКО.**



Часам Свеце, што цяпер жыве ў мядзельскім дзіцячым сацыяльным прытулку, тэлефануе бабуля.

Фота Святланы ЦІШКО.


### Са сваёй градкі



Карміць вучняў педагогам Маладзечанскай СШ№5 дапамагае ўласны агарод.

3-я старонка

### Небяспечныя калодзежы



У вадзе паловы калодзежаў на тэрыторыі Маладзечна і раёна перавышаны дапушчальны ўзровень нітратаў.

6-я старонка



### Валянцінаў дзень

Мужчынскі погляд на тэму адзіноцтва. Душу раскрывае Кірыл Слабко.

7-я старонка

## Новы святар у Мядзеле

**МЯДЗЕЛ. У суботу райцэнтр наведаў мітрапаліт Філарэт. У царкве ён адслужыў малебен і прадставіў новага настаяцеля храма і благачыннага Мядзельскай акругі айца Ігара.**

Новы святар — з Любані, што ля Вілейкі. Яго папярэднік — айцец Адам — памёр некалькі тыдняў таму.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ТУРЫЗМ

## Бяруць пяро турысты ў рукі

**Падведзеныя вынікі конкурсу на самага актыўнага карэспандэнта па рэкламе турызму і турыстаў клуба «Пілігрым» на старонках беларускіх газет і часопісаў.**

Конкурс існуе з 1998 года. У залік ідуць тэксты і фотаздымкі. Сёлета надрукавана 93 матэрыялы. Самая вялікая іх колькасць з'явілася ў «Рэгіянальнай газеце». Акрамя мясцовых газет, матэрыялы пра турыстаў друкавалі нават «Туризм и отдых» і газета Пскоўскай вобласці «Пушкинский край».

У конкурсе бралі ўдзел 33 аўтары. Першае месца сярод іх заняў дырэктар турклуба «Пілігрым» Сяргей Бялкоў, другое — Анжаліка Крупянькова з «Маладзечанскай газеты». Трэцяе і чацвёртае месцы падзялілі Святлана Цішко з «Рэгіянальнай газеты» і Людміла Тарасенка з газеты «Вечерний Минск». Пераможцы і прызёры ўзнагароджаныя граматамі Маладзечанскага турклуба і салодкімі прызамі.

**Іван СІДАРОВІЧ.**

## З першага погляду

**МЯДЗЕЛ. Шоу «Каханне з першага погляду» мае адбыцца ў гарадскім Доме культуры 13 лютага.**

Тры пары ўдзельнікаў сфарміравалі папярэдне. Юнакоў і дзяўчат чакаюць спартыўныя, інтэлектуальныя, забаўляльныя конкурсы. Летась на такім жа конкурсе ў якасці дамашняга задання дзяўчаты рыхтавалі выпечку, а хлопцы складалі вершы. Усе пары атрымаюць прызы.

Паміж конкурсамі калектыў моладзі «Дзівакі» прадставіць паказ моды да Дня святога Валянціна. Уваход для гледачоў вольны.

**Святлана ЦІШКО.**

■ АНОНС

# Срэбны коннік

**МАЛАДЗЕЧНА. "Срэбны коннік". Так завецца зборнік паэзіі маладзечанца Лявона Цімохіна, які будзе прадстаўлены аўтарам у Мінскім абласным драматычным тэатры у суботу, 14 лютага, а 16 гадзіне.**

Гэты зборнік, які пабачыў свет напрыканцы мінулага года, падсумоўвае тое, што напісаў паэт да моманту, калі сонца яго ўзнялося ў зеніт.

Лявон Цімохін – настаўнік гісторыі. У свой час узначальваў літаратурную паэтычную сябрыну маладзечанскіх школьнікаў "Праменьчыкі". Паэзія і гісторыя для Цімохіна, калі не тое самае, то з'явы вельмі блізкія. У зборніку сабраныя творы, прысвечаныя лёсу Беларусі, прасякнутыя патрыятычным пафасам і болем за гвалт над нашым народам, а таксама шмат лірыкі. І яны ствараюць непарыўны кантэкст, які можна ледзь не памацаць, адчуць шэрань ранку, цеплыню сонца або летняга даждж:

На Беларусі добрае надвор'е,
Ад Вільні да Смаленска дождж імжыць, грыбы растуць у лесе,
а ў полі Туман шарэе, кнігаўка крычыць.

У кнізе паэт прадставіў свае вершы не толькі на беларускай мове, але таксама на польскай, нямецкай і рускай.

Прадмову да паэтычнага зборніка напісалі сябры паэта мастак і паэт Алесь Мара (Аляксей Марачкін), а таксама пісьменнік і журналіст Васіль Гроднікаў. Выйшла кніга ў Мінску, тыраж – 500 паасобнікаў. Ілюстраваная фатаграфіямі і графікай маладзечанскіх мастакоў Рыгора Мяжуева і Генадзя Селядца.

**Мікола ГАЙДУК.**



Лявон Цімохін. Настаўнік гісторыі, жыве ў Маладзечне. Кніга «Срэбны коннік» – першая кніга паэта.

Фота з кнігі «Срэбны коннік».

■ ВЫСТАВЫ

## «Далёкае і блізкае»

**МАЛАДЗЕЧНА. У цэнтральнай бібліятэцы імя Багдановіча адкрыта выстава нашага земляка Міколы Аўчыннікава пад назваю "Далёкае і блізкае".**

Першыя ўражанні ад прагляду – шыкоўнасць, натхнёнасць, перапляценне рэальнасці і фантазіі, мінулага і будучага, далёкага і блізкага... Абстрактнасць і канкрэтыка ўвасоблены ў карцінах мастака так адмыслова і разам з тым так звычайна, што не пакінуць абыякавым ніводнага наведвальніка. Кожны адшукае тут нешта сабе даспадобы, нешта роднаснае. Ці то "Маладзечанскі замак" у аблоках лясных туманоў, ці вытанчаную "Германскую готыку", ці тое, што згадвае пра неўміручых Далі і Пікасо, — "Час поўні", кропельны, жоўта-зялёны, ці сіне-залатую "Узаемасувязь"... Як быццам сумесь думак, пачуццяў, часоў і краін.

Бачна, што аўтар вельмі шмат вандраваў, наведаў Поўнач і Поўдзень, Прыбалтыку, Германію, Швецыю, Польшчу.

Нарадзіўся Мікола Аўчыннікаў у вёсцы Гарадзец Гомельскай вобласці ў 1952 годзе. Вучыўся на мастацка-графічным факультэце ў Віцебскім педагагічным інстытуце. Засвоіў тэхніку жывапісу, акварэлі і змешаную. Да слова, ён жа і выкарыстоўвае камбінаванне розных прыёмаў (як мастацкіх, так і тэхнічных) пры напісанні сваіх карцін. І тое, што атрымліваецца, нельга назваць проста краявідамі ці нацюрмортамі. Гэта – своеасаблівыя шэдэўры, "праекцыі" розных мясцінаў неабсяжнай зямлі, ва ўспамінах і ў сэрцы. Ці то рамантычная "Польшча", ці загадкавая "Зямля вікінгаў".

З 1976 года Мікола Аўчыннікаў – пастаянны ўдзельнік выстаў (рэспубліканскіх, абласных і г.д.). Таксама ён з'яўляецца сябрам Беларускага саюза мастакоў і працуе выкладчыкам мастацкага аддзялення ў Дзяржаўнай педагагічнай гімназіі. Яго работы захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі і ў прыватных калекцыях Ірландыі, Германіі, Ізраіля, ЗША.

Наогул, творы Міколы Аўчыннікава – гэта мроі і ўвасабленне чыіхсьці сноў і жаданняў, гэта вандраванні духу па прасторы, заключаныя ў пяшчотных абдымкі колеру і фарбаў, гэта сарцавіна настрою і часу, далёкага і блізкага...

**Таццяна ШЭЛЕГ.**

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

## Часцей кажыце «люблю»

Некалькі дзён таму наведалася ў Ашмяны. Вядома ж, не ўстрымалася, каб не зайсці ў будынак абноўленага раённага вузла сувязі. У прасторным і светлым памяшканні ўвагу прыцягнула шкляная вітрына, дзе велізарныя, усе ў кветках паштоўкі межаваліся з маленькімі, падобнымі на сэрца, валянцінкамі.

"Мне дзве паштовачкі з Днём святога Валянціна", — папрасіла прадаўшчыцу дзяўчынка ў ружовай шапачцы. Тая, кладучы чырвоныя сэрцайкі ёй у ручку, цёпла, па-мацярынску ўсміхнулася. Мабыць, і гэта малеча камусьці прызнаецца ў каханні. Можа, свайму аднакласніку, што цягае на перапынках за косы, а можа, пакладзе непрыкметна валянцінку ў партфель хлопчыку, з якім разам ходзіць у музычную школу?

"У дзень закаханых я не буду свайму маладому чалавеку купляць падарункаў", — падзялілася знаёмая дзяўчына. Зраблю так, каб гэты дзень яму запомніўся надоўга. Завяду ў парк, знайду палянку з некранутым снегам, вытапчу на ім вялікае сэрца, а побач напішу: "Я цябе кахаю!" І столькі радасці, столькі шчасця было ў яе вачах у гэты час, што і тым, хто яе слухаў, захацелася "ўкрасці" ідэю і падарыць такую ж палянку свайму каханаму альбо мужу.

"У Дзень святога Валянціна хачу прызнацца ў каханні сваёй сяброўцы", — напісала ў лісце ў рэдакцыю адна з нашых чытачак. "Звычайна прызнаюцца мужчынам...", — паспрабаваў хтосьці з калег няўпэўнена "паспрачацца" з ёй і тут жа словамі "ат, дачакаешся ад іх", перарваў свой маналог.

А давайце не будзем чакаць. У рэшце рэшт, сёння ж не 8 Сакавіка. А возьмем і першымі прызнаемся сваім мужчынам у каханні. Прыемна будзе пачуць словы "я цябе люблю" і матулям, бабулям, сяброўкам, якім давяраем тайны і сакрэты і да якіх бегаем паплакацца, нашым дзецям.

Псіхолагі даўно заўважылі, што добрымі матулямі і жонкамі становяцца менавіта тыя дзяўчынкі, якіх выхоўвалі ў любві і пяшчоце. Больш таго, яны ўпэўненыя ў сабе, здольныя звярнуць горы, дасягнуць кар'ернага росту, не губляюць пры гэтым сваю жаноцкасць і пяшчотнасць у адносінах да блізкіх. Падобнае адбываецца і з хлопчыкамі, якія растуць у сем'ях, дзе ёсць павага, каханне.

"Ну, чаму мой сын такі, – скардзілася на класным сходзе адна мама. Няўпэўнены, нясмелы, кроку не можа ступіць, каб са мной не параіцца." "Дайце яму крыху свабоды, – далікатна параіла настаўніца. – Ён добры, разумны хлопчык і сам можа прыняць любое рашэнне. Проста, вы яго рэдка хваліце. Часцей кажыце сыну добрыя словы, ён заслугоўвае іх".

Міша закончыў школу з медалём, стаў псіхолагам. Кажа, што менавіта любоў бацькоў дапамагла яму паверыць у сябе. Хочаце, каб і вашы блізкія былі шчаслівымі, тады часцей кажыце ім: я цябе люблю.



Разважала **Марына СЛІЖ.**

# Часопіс «Вожык» запрашае чытачоў да супрацоўніцтва

**Адзіны ў нашай краіне цалкам беларускамоўны часопіс сатыры і гумару "Вожык" "размяняў" сёмы дзесятак, але па-ранейшаму застаецца задзірлівым, свавольным ды "калючым".**

Ужо колькі часу ён працягвае цікавіць, радаваць, смяшыць сваіх чытачоў сакавітым беларускім гумарам, узнімае не адно вострае пытанне з дапамогай прытчаў, пародый ды карыкатураў, прываблівае рознымі коміксамі, конкурсамі, розыгрышамі прызоў прадстаўнікоў зусім юнага пакалення, бо ёсць у яго і дадатак – маленькі "Калючык", што збірае дзіцячыя жарты і прыколы.

"Ну, а зараз, - як кажа цяперашні радактар "Вожыка", між тым вядомы паэт **Алесь Пісьмянкоў**, — трэба пашырыць геаграфію... Канешне, перыяд сёння складаны і для тых, хто робіць часопісы, і для тых, хто іх чытае. Але ж нават у самы вельмі час смутку не трэба саромецца смяяцца, хаця б над сабой, над сваімі памылкамі, бо добры гумар павінны жыць вечна!"

Цяпер "Вожыку" вельмі патрэбныя супрацоўніцтва і падтрымка, "абмен" свежымі ідэямі альбо прыток новых сіл з боку. У нашым рэгіёне заўсёды было шмат таленавітых гумарыстаў, дастаткова ўспомніць "опусы" **Аркадзя Жураўлёва** і **Валерыя Тулоўскага**, байкі **Алега Шчукіна** і парадыйныя эстрадныя маналогі **Валерыя Маркелава**.

Усё гэта, вядома, пашырае гарызонты. Творчым асобам лягчэй ствараць нешта разам. Гэта тычыцца якраз і тутэйшых творцаў, і калектыву часопіса "Вожык", дзе працуюць такія знакамітыя літаратары, як **Навум Гальпяровіч**, **Анатоль Зэкаў**, **Павел Місько**. А ў рэдактара Алеся Пісьмянкова ў кнігарні "Светач", што ў Мінску, адбылася прэзентацыя яго чарговай, на гэты раз "дзіцячай" кніжкі вершаў "Мы з братам", што яшчэ раз даказвае тое, якія рознабаковыя і непрадказальныя ва ўсім творчыя людзі.

Такім чынам, гатовы да плённага супрацоўніцтва, "Вожык" цяпер імкнецца прыцягнуць увагу да твораў пастаянных аўтараў і, канешне, шукае новых, каб яшчэ лепш аздобіць свае старонкі каларытным нацыянальным гумарам у лепшых літаратурных традыцыях.

**Таццяна ШЭЛЕГ.**

■ ШКОЛЬНАЕ ХАРЧАВАННЕ

# Са сваёй градкі

## Карміць вучняў школе №5 г.Маладзечна дапамагае ўласны агарод

**Ліквідацыя камбіната школьнага харчавання з 1 студзеня паставіла адміністрацыі школ горада перад неабходнасцю самастойна забяспечваць харчаванне вучняў.**

Яшчэ зусім нядаўна вышэйзгаданае прадпрыемства займалася выбарам асартыменту, адказвала за якасць і забяспечвала дастаўку прадуктаў у школьныя сталовыя. Пасля спынення яго дзейнасці персанал быў размеркаваны па школах, павялічыўшы штат работнікаў сталовых на аднаго чалавека.

У сярэдняй школе №5, па словах дырэктара **Яўгена Макарэвіча**, гэты штат складаецца з 5 чалавек: загадчыка вытворчасці, повара, работніка кухні, буфетчыка і мыйшчыцы посуду. СШ №5, як і ўсе школы горада, супрацоўнічае з фірмай "Дробны опт", якая займаецца рэгулярнай дастаўкай прадуктаў. Прадукты прывозяцца свежыя, комплексныя абеды гатуюцца на месцы.

**Меню даволі разнастайнае: 3 разы на тыдзень у школьны абед уваходзіць мяса (катлеты, сасіскі, кураціна), адзін раз – рыбны дзень і адзін раз – малочны. Гарнір – бульбяное пюрэ (не радзей 2-х разоў на тыдзень), ячныя, грэчневыя, рысавыя кашы, хлеб. Трэцяе блюда – чай ці кампот з булачкай альбо піражком. Дзяцей з групы падоўжанага дня кормяць гарачай першай стравай.**

У школе ёсць так званыя экспрэс-сняданкі (чай, булачка), якія арганізуюцца пераважна для пачатковых класаў. Прапануюцца яны па жаданні дзяцей і бацькоў і каштуюць 1500 рублёў на тыдзень. Працуе буфет, дзе можна набыць кандытарскія вырабы, сокі, салаты.

Якасць і каларыйнасць рэгулярна правяраюцца санстанцыяй і гарана. У школы ёсць права звароту недабраякаснай прадукцыі. У выпадку ўзнікнення сумненняў па якасці, загадчык вытворчасці складае акт, і сапсаваныя ці пратэрмінаваныя прадукты вяртаюцца фірме-пастаўшчыку.



У розных школах, нават у адным горадзе, школьнае харчаванне можа адрозніваецца ад школы да школы. Адным школам дапамагаюць шэфы, іншым – свае грады. Фота ByMedia.Net

Два гады таму была знятая агульная дзяржаўная датацыя на харчаванне школьнікаў. І сёння бюджэтнымі сродкамі аплачваецца харчаванне толькі вучняў пачатковых класаў. Кошт комплекснага абеду складае 700 рублёў, што, дарэчы, на 300-400 рублёў дзешавей, чым у школах Мінска.

Аплата праводзіцца наступным чынам: бацькі праз дзяцей перадаюць класнаму кіраўніку 3500 рублёў на тыдзень. Аднак наяўнасць камерцыйных кіёскаў у двух кроках ад школы абумоўлівае тое, што вучні, асабліва старэйшых класаў, не заўсёды даносяць гэтыя грошы да школьнай сталоўкі. Ім хочацца купіць чыпсы і розныя газіраваныя напоі, забароненыя для рэалізацыі ў школе з-за павышанага саставу інгрэдыентаў, шкодных для здароўя. Гэта праблема рэгулярна ўзнімаецца на бацькоўскіх сходах. Але змагацца з гэтым вельмі цяжка, і ў рэшце рэшт старшакласнікі паміж бяспечнай і карыснай ежай, прыгатаванай школьным поварам, і прадукцыяй, якую прапануе камерцыйны кіёск, часта выбіраюць апошнюю.

Бясплатна харчуюцца дзеці з няпоўных і шматдзетных сем'яў, а таксама дзеці з групы падоўжанага дня. Гэта стала магчымым дзякуючы часткова эканоміі ўласных фінансавых сродкаў, часткова – дапамозе дзяржавы.

Асаблівасць СШ №5 ў тым, што ў яе ёсць свой зямельны ўчастак. Паўгектара зямлі на ўроках працы і ў час школьнай практыкі апрацоўваюць самі вучні. Вырошчваюць капусту, буракі, кабачкі, цыбулю, моркву, агуркі. Такім чынам, школа на працягу двух месяцаў забяспечаная ўласнай агароднінай. Але тое, што няма сховішча для агародніны, не дазваляе павялічыць гэты тэрмін. Летась частка ўраджаю была прададзена гарадской бальніцы, частка перададзена бясплатна маладзечанскаму інтэрнату састарэлых і інвалідаў.

На думку дырэктара СШ №5 Яўгена Макарэвіча, нягледзячы на значныя змяненні ў самой сістэме школьнага харчавання, школа здолела забяспечыць адносна недарагое, а галоўнае, якаснае і карыснае харчаванне школьнікаў.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

■ ПАРТРЭТ

# Жыццё ў працы

**МАЛАДЗЕЧНА. "У мяне бурнае і цікавае жыццё. Я заўсёды адчуваю, што патрэбны людзям". Мала хто з нас можа так сказаць аб сабе. Але толькі не Міхаіл Наседкін, які раней быў начальнікам прадпрыемства другаснай сыравіны.**

Напачатку 60-х ён працаваў інжынерам у абласным Упраўленні прамысловасці Маладзечна. І займаўся аснашчэннем мэблевых цэхаў вобласці. Цяпер у нашым горадзе некалькі прадпрыемстваў, якія спецыялізуюцца на выпуску мэблі. У тыя ж далёкія часы ў Маладзечне не было спецыялістаў па дрэваапрацоўцы. Таму з Мёрскага раённага прамысловага камбіната і прыслалі майстравога Міхаіла Наседкіна.



Міхаіл Наседкін прысвяціў жыццё сям'і і працы. Фота з архіва «РГ».

Потым ён загадваў міжшкольнымі майстэрнямі. Дарэчы, Міхаіл удзельнічаў у афармленні СШ №6, дзе доўгі час праводзіліся важныя гарадскія мерапрыемствы. Падчас работы ў школе ён атрымаў 20 падзяк і Ганаровую грамату Міністэрства асветы БССР.

Пазней было яшчэ шмат прэмій, удзячнасцяў... і медаль "За працоўныя заслугі".

— Што, акрамя работы, успамінаеце, калі "гартаеце" старонкі свайго жыцця?

— (Крыху падумаўшы.) Ізноў работу. Маё жыццё неадрыўнае ад яе. Я ніколі не спазніўся і не пакінуў раней, чым патрэбна, працоўнае месца.

— Няўжо і ніякага заняткy для душы не было?

— Ёсць. Дача ў Плёсах. Там і яблыні растуць, памідоры, агуркі...

Усё, як мае быць у гэтага чалавека. І дрэва пасадзіў, і дом пабудаваў, і сына выгадаваў, нават двух. Цяпер, нягледзячы на 75-гадовы ўзрост, Міхаіл Наседкін працягвае займацца грамадскай работай: дапамагае ветэранам вайны і працы.

Можа, так і трэба ўсё жыццё працаваць.

**Ірына РАБУШКА.**

## Пажарныя правераць

**МАЛАДЗЕЧНА. Дэкаднік пажарнай бяспекі бытавых і дапаможных памяшканняў на будоўлях праходзіць ў горадзе і раёне.**

Доўжыцца будзе да 20 лютага. На сённяшні дзень на Маладзечаншчыне 59 будаўнічых пляцовак. На большасці з іх, паводле звестак Маладзечанскага аддзела па надзвычайных сітуацыях, правілы пажарнай бяспекі выконваюцца толькі часткова. Цяпер пажарныя правяраюць усе гэтыя аб'екты і навучаюць іх работнікаў правілам бяспекі.

**Святлана ЦІШКО.**



## Курсы валют НБ РБ

| | 5.2 руб. | 12.2 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2159,00 | 2157,00 |
| Еўра | 2708,68 | 2731,95 |
| Злоты | 566,70 | 563,11 |
| Літ | 784,41 | 791,08 |
| Расійскі рубель | 75,68 | 75,60 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2160/2170 | 2160/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 4.2 | 11.2 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13870 | 13830 |
| Сасіскі, 1 кг | 4980 | 4890 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 3000 |
| Рыс, 0,9 кг | 950 | 900 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1570 | 1570 |
| Алей, 1 л | 2000 | 1900 |
| Маянэз, 200 г | 470 | 520 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2100 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1100 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 950 | 950 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 870 | 850 |
| Капуста, 1 кг | 250 | 480 |
| Морква, 1 кг | 350 | 600 |
| Лімоны, 1 кг | 3200 | 3100 |
| Апельсіны, 1 кг | 1980 | 2150 |
| Яблыкі, 1 кг | 1300 | 1050 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 900 | 1000 |
| Смятана, 1 л | 2200 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 5100 | 5100 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 2400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2400 | 2300 |
| Бульба, 1 вядро | 2200 | 2800 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1200 |

■ СЛУЖБА «01»

# Не сталі назіральнікамі

## Выратавальнікі прыйшлі на дапамогу не па прафесійным абавязку, а па сумленні

**ВІЛЕЙКА. Двум мінчанам выратавалі жыццё віляйчане Пётр Багдановіч і Дзмітры Шупляк, калі ехалі са сталіцы дадому.**

Начальнік аддзела па надзвычайных сітуацыях Пётр Багдановіч і камандзір аддзялення Дзмітры Шупляк вярталіся з абласной нарады. Дзень хіліўся да вечара, а ў роце яшчэ не было і макавай расінкі. Таму вырашылі звярнуць на аўтастаянку, што ля Мінскага мора, і падсілкавацца.

Яшчэ здалёк убачылі, што ля берага тоўпяцца людзі, якім, актыўна махаючы рукамі, нешта паказваюць рыбакі. Выйшлі з машыны і... аслупянелі. За некалькі соцень метраў ад берага ўбачылі палонкі, у якіх плавалі дзве шапкі. Мужчыны не раіліся, не планавалі сваіх дзеянняў. Вокам прафесіяналаў убачылі, што яшчэ дзве, тры хвіліны і ратаваць тапельцаў будзе позна.

Дзмітры кінуўся да багажніка аўтамашыны, дастаў падобную на шнурок вяровачку, якой звычайна прывязваў груз да багажніка. Адзін яе канец накруціў на руку сабе, другі – кінуў Пятру. Разышоўшыся адзін ад аднаго на адлегласць тры метры, рушылі да палонак. "Лёд трашчаў, — успамінае Дзмітры, але страшна не было. – У галаве была толькі адна думка: паспець і дапамагчы людзям". "Кладзёмся, — сказалі яны амаль што ў адзін голас. Страхуючы адзін аднаго пры дапамозе ўсё той жа вяроўкі, леглі на жывот і папаўзлі па-пластунску. Лёд, здавалася, вагаўся пад іх целамі, раз-пораз трэскаўся і нагадваў пабітае люстэрка.

Наблізіліся да палонкі. Дзмітры ўзяў Пятра за ногі, а той, падпоўзшы на максімальную адлегласць, закінуў вяровачку. Тапелец схапіўся за яе рукамі, але ўсцягнуць яго на лёд мужчыны не змаглі. У тоўстым кажуху, з рукзаком за плячыма той быў амаль што непад'ёмны. Лёд абламаўся раз, другі, мужчыны адпаўзалі назад, не перастаючы цягнуць за сабой незадачлівага рыбака. Нарэшце злаўчыліся, вывалаклі яго на паверхню наздраватага лёду. Мужчына нават не паруxаўся. Ад доўгага знаходжання ў вадзе наступіла пераахаладжэнне.



Камандзір аддзялення Вілейскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях Дзмітры Шупляк выратаваў не адно жыццё. Фота Марыны СЛІЖ.

Другога дасталі лягчэй. Той знаходзіўся ў сцюдзёнай вадзе значна менш і, ухапіўшыся за выратавальную вяровачку, з усёй сілы дапамагаў выратавальнікам.

Аценіўшы сітуацыю, Дзмітры Шупляк і Пётр Багдановіч не павялі тапельцаў на бераг. Дабраліся да невялічкага перашыйка, затым да востраа, на якім развялі касцёр. Зняўшы з мужчын мокрыя курткі, сталі адаграваць. Затым вырашылі выклікаць "хуткую дапамогу". Перабежкамі Дзмітры дабраўся да берага. "Дайце патэлефанаваць", – папрасіў маладых людзей, што стаялі з сотавым тэлефонам у кагорце назіральнікаў. Тыя адмоўна пакруцілі галовамі. Прыйшлося бегчы да машыны, ехаць у прыдарожнае кафэ.

А тым часам выратаваныя Дзмітрыем і Пятром мужчыны, назваўшы сябе Канстанцін і Алег, расказвалі свае горкія гісторыя. На рыбалку яны прыехалі са сталіцы. Вудзілі рыбу водаль адзін ад аднаго. Бліжэй да вечара сталі збірацца на электрычку. У горад хацелася вярнуцца завідна. А Канстанцін вазьмі і праваліся пад лёд. Алег, як сапраўдны мужчына, кінуў свае вуды і паспяшаўся яму на дапамогу, ды сам трапіў у падобную пастку.

Убачыўшы, што рыбакі топяцца, астатнія аматары зімовай лоўлі скруцілі свае вуды і бегам кінуліся да берага. Адтуль і назіралі за няшчаснымі, якія чакалі сваёй смерці на вачах у дзвюццаці чалавек. "Змахваючы акрываўленымі рукамі з вачэй слёзы, парэзаў іх аб вяроўку, Канстанцін дзякаваў вілейскім выратавальнікам, раз-пораз паўтараючы, што паспеў ужо развітацца з усімі сваімі роднымі.

Неўзабаве прыехала "хуткая дапамога". Пачуўшы гісторыю пра тапельцаў, фельчарка не згадзілася ісці па лёдзе на астравок. Пры дапамозе ўсё той жа вяровачкі вілейскія выратавальнікі вывелі на бераг адразу аднаго пацярпелага, затым – другога. "Мы абавязкова прыедзем да вас, — займаючы месцы ў машыне, абяцалі тыя". Але мужчынам так і не суджана было больш сустрэцца. Выпісаўшыся з бальніцы, тапельцы забыліся пра тых, хто, рызыкуючы сваім жыццём не па абавязку, а па патрабаванні сэрца, ратаваў іх у той трагічны дзень. Начальнік Вілейскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях Пётр Багдановіч і камандзір аддзялення Дзмітры Шупляк не крыўдуюць. У розныя рэпт, не дзеля ўзнагарод ішлі на рызыку. Проста, у іх такая работа...

Марына СЛІЖ.

### Аказанне дапамогі чалавеку, што праваліўся пад лёд

**Аказаць дапамогу чалавеку, што трапіў пад лёд, справа не простая. Каб выратаваць пацярпелага і не апынуцца ў бядзе самому, трэба прытрымлівацца наступных правіл:**

— не выходзьце на лёд не падумаўшы, ці можаце вы аказаць дапамогу самастойна.

— не працягвайце руку. Падайце пацярпеламу доўгі шэст, вяроўку, лыжу альбо хакейную клюшку.

— ступіўшы на лёд, не ідзіце, паўзіце, раўнамерна размяркоўваючы вагу цела па паверхні і штурхаючы сродак выратавання перад сабой.

— трымайцеся як мага далей ад лункі, працягніце пацярпеламу палку, шэст альбо канец вяроўкі.

— калі пачнеце выцягваць пацярпелага, папрасіце яго працаваць нагамі – так будзе лягчэй яго цягнуць.

— выцягніце пацярпелага на бераг у бяспечнае месца, разагрэйце, акажыце дапамогу.

■ ЧЫГУНКА

### Смерць на рэйках

**МАЛАДЗЕЧНА. Чыгунка – адно з самых небяспечных месцаў. Цягнікі не толькі дапамагаюць сустрэцца праз год ці 10. Але і разлучыць назаўсёды... з жыццём.**

Хтосьці гэта робіць наўмысна, нехта трапляе пад колы па асабістай легкадумнасці. Цяперашняе надвор'е таксама робіць свой "унёсак" для павелічэння колькасці няшчасных выпадкаў.

Кажуць: бомба ў адну варонку двойчы не падае. Але толькі не на чыгунцы. Супрацоўнікі аддзела ўнутраных спраў на транспарце (АУСТ) добра памятаюць здарэнне з алёхнавіцкім хлопцам. Ён трапіў пад электрычку і зламаў сківіцу. У другі раз пашкодзіў нагу і пазбавіўся часткі пальцаў на руцэ.

Прычына самагубства на чыгунцы, часцей за ўсё, — нераздзеленае каханне або нелады з мужам ці жонкай.

Неяк быў выпадак, што пад колы грузавога цягніка трапіў глуханямы мужчына. Людзі, што былі побач, гучна крычалі і размахвалі рукамі, паказваючы на вагоны, якія хутка набліжаліся да яго. Але... Ёсць і тыя, хто вельмі "спяшаецца". Тады пераллазяць пад цягніком. Так загінула пад коламі электрычкі 30-гадовая жанчына, якая прыехала з Мінска на дачу.

Часцяком чыгунка становіцца пляцоўкай для гульняў дзяцей. Супрацоўнікі АУСТ гавораць, што аднойчы злавілі кампанію 6-8-класнікаў, што каталіся на драбінцы па чыгунцы. Памятаюць і 7-гадовую дзяўчынку, якой пашчасціла выжыць, трапіўшы пад колы электрычкі.

Па словах старшага інспектара службы грамадскага парадку і прафілактыкі АУСТ **Юрыя Краўчанкі**, большасць ахвяр чыгункі — п'яныя. Ён і яго калегі рэгулярна праводзяць прафілактычныя рэйды, каб папярэдзіць траўматызм. «Перавыхоўваюць» парушальнікаў. Дарэчы, за пераход в неўстаноўленым месцы могуць аштрафаваць да 0,5 мінімальнага заробку.

Ірына РАБУШКА.

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

### Аўто-2002

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад гандлёвага дома «Маладзечна» ўгналі аўтамабіль «Субару» 2002 года выпуску.**

Гэта адбылося сярод белага дня — з 13.30 да 14.45, — пакуль машына была без гаспадара. Яна належыць грамадзяніну Літвы. Праводзіцца праверка.

### Выбіў шкло

**МАЛАДЗЕЧНА: Злодзей выбіў шкло ў дзвярах машыны «ФВ-Пасат», якую гаспадар пакінуў у двары па вуліцы Ф.Скарыны, 10-а.**

Невядомы забраў аўтамагнітолу замежнай вытворчасці. Злодзея шукаюць. Узбуджана крымінальная справа.

### Абакралі навучэнку

**МАЛАДЗЕЧНА. Хтосьці абакраў навучэнку гандлёва-эканамічнага каледжа.**

Здарылася гэта а першай гадзіне ночы каля пад'езда па вуліцы Ф.Скарыны, 2-а. Дзяўчына засталася без пашпарта, канспектаў, 10 долараў ЗША і 5 тысяч беларускіх рублёў, якія ляжалі ў сумачцы, што вырваў з рук злодзей. Пра здарэнне пацярпелая паведаміла ў міліцыю праз 12 гадзін. Узбуджана крымінальная справа.

### Злодзей з вёскі

**МАЛАДЗЕЧНА. Вясковец выкраў з сельскагаспадарчага вытворчага комплексу «Гарадзілава» факс, тэлефон, тэлевізар.**

Яны знаходзіліся ў адміністрацыйным будынку. Увечары, калі там нікога не было, мужчына ўзламаў дзверы. Яго затрымаў нарад «Ахова». Высветлілася, што раней гэты злодзей ужо быў судзімы. Узбуджана крымінальная справа.

### «Абагаціўся»

**МАЛАДЗЕЧНА. Злодзей выкраў у маладзечанкі... 8 тысяч рублёў.**

Гэта адбылося напачатку 11-й гадзіны вечара на вуліцы Віленскай. Мужчына адабраў у жанчыны пакет, дзе і знаходзіліся грошы. Асобу злодзея высвятляюць. Узбуджана крымінальная справа.

### Падабраў ключы

**МАЛАДЗЕЧНА. Невядомы абакраў адну з кватэр па вуліцы Ясінскага, 9, дзе 2 тыдні ніхто не жыў.**

Ён падабраў ключы і вынес долары ЗША, залатыя вырабы і беларускія рублі. Узбуджана крымінальная справа.

### У прытоне

**МАЛАДЗЕЧНА. Чацвёра маладзечанцаў выкралі адзенне ў 32-гадовага мужчыны.**

Здарэнне было ў адной з кватэр па вуліцы Ф.Скарыны, 14, якую ведаюць у міліцыі як прытон. Злодзеі і пацярпелы разам пілі. Узбуджана крымінальная справа.

Па зводцы гарраўаддзела ўнутраных спраў падрыхтавала Ірына РАБУШКА.

### Уратавалі ад смерці

**ВІЛЕЙКА. У мінулы чацвер 30-гадовая віляйчанка хацела выкінуцца з акна 5 паверха з 2–гадовым сынам і звесці рахункі з жыццём.**

Гэта здарылася каля 11 гадзін вечара ў інтэрнаце завода «Зеніт». Больш за 10 супрацоўнікаў міліцыі і аддзела па надзвычайных сітуацыях ратавалі жанчыну. Спатрэбілася і аўталесвіца. Усё абышлося. Віляйчанку завезлі ў бальніцу.

Ірына РАБУШКА.

### Падняў руку на міліцыянера

**У Клімавічах (Магілёўская вобласць) злачынца нанёс работніку міліцыі тры ўдары нажом.**

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе аб'яднання «Ахова» пры МУС, ноччу 7 лютага у адной са сталовак горада спрацавала сігналізацыя. На месца выехала група затрымання гарадскога аддзела аховы, якая убачыла ў сталовай выстаўленую шыбу. Калі аднаму з міліцыянераў падалося, што за бліжэйшымі сумётамі нехта хаваецца — злачынца кінуўся наўцёкі. Як толькі супрацоўнік аховы наблізіўся да падазронага, той раптам нанёс яму ўдар нажом у вобласць грудной клеткі. Каб не бронекамізэлька, наўрад ці супрацоўніку аховы ўдалося б ухіліцца ад другога ўдару, які быў нанесены ў падпахавую вобласць. Падчас барацьбы трэці ўдар нажа быў ужо ў вобласць сцягна. Пасля гэтага злачынца зноў кінуўся наўцёкі. Адчуўшы, што страчвае прытомнасць, міліцыянер паспяшаўся звязацца з напарнікам па рацыі. Ужо праз хвіліну на «трывозе» быў падняты ўвесь асабовы склад аддзела аховы.

У выніку аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў злачынца, якім аказаўся 24-гадовы рабочы мясцовага райспажывсаюза, быў затрыманы ва ўласным доме.

У дачыненні да яго заведзена крымінальная справа.

Паводле БелаПАН.

■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Дзень выратавальніка

**У канцы кожнага года ў мяне ёсць прывычка перагартаць каляндар на будучы год. І вось я знаходжу свята – Дзень выратавальніка.**

Зараз усё перабліталася ў святах, святкуюць праваслаўныя, каталіцкія, беларускія, рускія, савецкія і нават такія, як казаў мой сусед: " Я ўжо другі год святкую в'етнамскі Новы год, бо купіў на рынку куртку ў в'етнамцаў".. А адзін мой знаёмы з Інтэрнэта спампаваў сусветны каляндар святаў на кожны дзень. Прыходзіць ён дамоў нападпітку, а жонка яму: "Ну, што, зноў напіўся?". А той зірк ў каляндар: "Дык я ж святкаваў дзень узяцця Бастыліі (магчыма – гадаўшчыну незалежнасці Гандураса– І.К.).

«Хто ж такія выратавальнікі і як іх знайсці?» – я спытаў у сваіх вучняў. На першае пытанне з 25 дзяўчынак (узрост 16-17 гадоў, спецыяльнасць гаспадыня сядзібы) 15 адказалі, што гэта пажарныя, 3 – міліцыянеры, 2 – «хуткая дапамога», 2 – выратавальнікі на вадзе, 1 – Чып і Дэйл, 1 – выратавальнікі Малібу. А адна дзяўчынка адказала, што выратавальнік – яе маці, бо выратоўвае раніцай бацьку, калі ён з вечара перабраў.




**Вынікі апытання, праведзенага Ігарам Кіцікавым ў Вілейскім ПТВ-200.**

На другое пытанне адказы былі такія: трэба патэлефанаваць: 911 (8 адказаў), 01 (9 адказаў), 02 (2 адказы), 03 (2 адказы). Чацвёра адказалі, што шукаць іх не трэба – выратавальнікі самі прыедуць. Я растлумачыў, хто такія выратавальнікі і як іх знайсці, і нават расказаў выпадак, у якім і мне прыйшлося быць выратавальнікам.

### Як я быў выратавальнікам

Гадоў 8 назад прыехаў нешта рамантаваць на аўтасэрвіс, што ў Шылавічах ля Вілейкі. Аддаў машыну, а сам пайшоў у сталовую гарбаты папіць. Зайшоў, паздароўкаўся (працавалі там тры знаёмыя жанчыны). Услед за мной заходзіць мужчына ў целагрэйцы, нявызначанага ўзросту, круціць галавой і раптам падае на падлогу і пачынае трасціся.

"Эпілепсія (хранічнае нервовае захворванне, якое праяўляецца ў прыпадках, сутаргах і страце прытомнасці)", – зразумеў я. У арміі мяне вучылі як дапамагаць эпілепсікам. І мне нават ўжо даводзілася ўдзельнічаць у выратаванні аднаго хворага. Дзяўчаты ж, убачыўшы такое ў першы раз, збеглі на кухню і пачалі скавытаць. Я схапіў са стойкі нож (трэба эбанітавая палачка, але ж дзе яе ўзяць) і засунуў мужчыну паміж зубамі, каб хворы не адкусіў язык і не сышоў крывёю, левай рукой зафіксаваў галаву, каб не біўся аб падлогу, а правым каленам злёгку прыціснуў грудную клетку, каб не варочаўся і не трасся. Пасля гэтага крыкнуў, каб выклікалі «хуткаю дапамогу».

Праз хвіліну ў сталовую зайшло некалькі добра апранутых мужчын і жанчын. Пачуўшы скавытанне жанчын з кухні, убачыўшы на падлозе мужыка, а над ім "амбала" з акрываўленым (трохі парэзаў вусны) нажом у руцэ, яны завярнуліся і хуценька вышлі.

Праз некалькі хвілін небарака прыйшоў у прытомнасць. Я дапамог яму падняцца. Раптам ён схапіўся за сэрца. "Ну вось, яшчэ і сардэчны прыступ!" – падумаў я. Але гэта мне толькі падалося. Той схапіўся не за сэрца, а за бутэльку "Зуброўкі", што ляжала ў кішэні. Пераканаўшыся, што яна цэлая, ён, нічога не кажучы (эпілепсікі не памятаюць, што з імі адбываецца), выйшаў са сталовай.

Я супакоіў жанчын; мы папілі гарбаты, развіталіся, і я выйшаў. Да сталоўкі пад'язджала міліцэйская ахова і «хуткая дапамога». Я расказаў ім, чаму іх выклікалі, мы ўсе разам усміхнуліся і раз'ехаліся.



Адкрыты ўрок вядзе Ігар КІЦІКАЎ, kitikoff@tut.by.

## Грамата асацыяцыі журналістаў

**МІНСК. Ганаровыя граматы ад Сусветнага руху за дэмакратыю атрымалі грамадскае аб'яднанне «Беларуская асацыяцыя журналістаў» (БАЖ) і незарэгістраваная Асамблея няўрадавых арганізацый.**

Як адзначыла ў інтэрв'ю БелаПАН кіраўнік БАЖ Жанна Літвіна, такога гонару беларускія арганізацыі ўдастоены ўпершыню. Граматы былі ўручаны на III форуме Сусветнага руху за дэмакратыю, які праходзіў у Дурбане (Паўднёвая Афрыка) на мінулым тыдні.

Паводле слоў Ж.Літвіной, сітуацыя з дэмакратыяй у Беларусі абмяркоўвалася на форуме разам з палесціна-ізраільскім канфліктам, крызісам у Заходняй Афрыцы і парушэннямі правоў чалавека ў Судане. Каля 600 чалавек з больш чым 120 краін разглядалі гэтыя праблемы як найбольш істотныя ў галіне сусветных дэмакратычных пераўтварэнняў.

Аб тым, што для Беларусі дэмакратычныя пераўтварэнні — сапраўды праблема, гаварылася нават у праграме мерапрыемства. У ёй, у прыватнасці, адзначалася, што «дэмакратычны рух Беларусі падвяргаецца рэпрэсіям» за тое, што знаходзіцца ў апазіцыі да ўлад.

Паводле БелаПАН.

■ ЗНАЁМЦЕСЯ – КІЯСКЁР

## Гаспадарлівая Ядвіга

**МАЛАДЗЕЧНА. Да кіяскёра Ядвігі Міцкевіч я прыйшла ў аўторак, акурат на дзень нараджэння. Для яе і будні, і святы праходзяць у рабоце. Кожны дзень у Ядвігі пачынаецца а палове шостай гадзіны раніцы. Не, ад дома да працоўнага месца, што каля міні-рынку "1000 дробязяў", 5 хвілін хады. Справа вось у чым.**



Кіяскёр Ядвіга Міцкевіч.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Акрамя продажу газет, жанчына мае гаспадарку ў Рагазах. І не пару-тройку курак, а карову і кабана. Некалі цяля ды індычак трымала. Ёсць і гарод. Ядвіга гаворыць, што дача ў яе не для адпачынку. Як, дарэчы, амаль у кожнага з нас. Домік у вёсцы застаўся жанчыне ад бацькоў. Тут жа яна і сама гадавалася, і жыла шмат часу. Часцяком гуляла ў магазін, прадаючы паштоўкі.

Можна сказаць, што прафесія сама выбрала жанчыну. 21 год яна працавала прадаўцом у кніжным магазіне "Спадчына". І ўжо 14 гадоў як кіяскёр. "Работы вельмі падобныя, — лічыць Ядвіга. – Толькі раней я чытала ўсемагчымыя кнігі, а цяпер газеты". Гэтае працоўнае месца спакойнае, але, па словах кіяскёра, не надта ўдалае для продажу газет: пакупнікоў мала. Пераважна — працаўнікі з завода "Спадарожнік". Таму іх пастаяннае скарачэнне Ядвіга Міцкевіч адчувае, як ніхто.

Ды што я ўсё пра работу. У суботу Ядвіга чакае гасцей. Павінны прыехаць дочкі і ўнучак Яраслаў з Мінска. Будуць смачны стол і, канешне ж, падарункі для імяніннiцы.

Ірына РАБУШКА.

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

Павезьлі нашу каханую мамачку й мы асталіся зусім адныя. Як старэйшая, пачала я гаспадарыць — есьці варыла, карову даіла, карміла жывёлу й малышоў абмывала.

Тым часам прыходзілі зь Вялейкі сумныя весткі. Зрабілі маме апэрацыю, вынялі косьць з калена, ды нічога не памагала. Пастанавілі ампутаваць нагу, на што мама згадзілася, бо вельмі жыць хацела, каб выхаваць сваіх дзетак. Нагі не ампутавалі, бо мама была на гэта заслабая. Адведала я маму ў Вялейцы толькі адзін раз. Ляжала яна на ложку да сябе непадобная. Валасы былі астрыжаныя, нагу трымала паміж двума мяшкамі зь пяском, каб яна не рухалася. На сьпіне мела раныадлежыны, бо мусела ляжаць увесь час на сьпіне самай найвялікшай гарачынёй лета. Як цяжка было глядзець на цярпеньні мамы, і зь якім болем на сэрцы вярнулася я дахаты! Пасьля маму адведала Вэра. Часам езьдзіла да яе цёця Юзя.

Аднаго дня, калі я сабіралася варыць вячэру, прыйшоў да нас з пастарунку паліцыянт і сказаў, што быў тэлефон з Вялейкі, што з мамай нядобра. Прасілі, каб хто-небудзь прыехаў. Пачуўшы гэта, сарвалася я й заліваючыся сьлязамі пабегла на Зялёную вуліцу да дзядзькі Томы. Прыбегшы да іх не магла сказаць аднаго слова, неяк ледзь выгаварыла „паліцыянт". Дзядзька дагадаўся й пабег хутка на пастарунак даведацца ў чым справа. У гэты вечар паехаў у Вялейку Пётрусь і цётка Гэлька, а я ўсю ноч ня спала, прадчувала нешта злое. Выбегла раніцай на вуліцу, калі прыходзіў аўтобус са станцыі, каб спаткаць Пётруся й цётку. Яны, высеўшы на рынку, махнулі да мяне рукой і пайшлі ў Даўгінаўскую вуліцу да цёткі. Здалося мне, што Пётрусь вясёлы, і я падумала: маме лепш стала. Вярнулася дахаты й пачала гатаваць снеданьне. І тут на парозе паказалася цёця Гэлька. Спыталася яна мяне, ці не бачыла я Пётруся. „Так, бачыла, — адказала я, — маме нашай лепей". „Не – адказала цёця — матка ваша памерла..."

Выбегла я з хаты ў агарод, пачуўшы гэтую страшную вестку й павалілася ў баразну ў бульбе, у якой цэлы дзень праляжала, залiваючыся сьлязамі.

А тым часам дзядзькі Стась і Адольф заказалі труну й паехалі ў Вялейку, каб прывезьці маму дамоў. Прыехалі з мамай у панядзелак, на трэці дзень пасьля яе сьмерці. На пахаваньне прыехалі дзядзя Вінцусь з Шаркаўшчыны, цёця Анеля з Глыбокага й іншыя крэўныя. Выйшлі мы на спатканьне з нябожчыцай мамай. У канцы Даўгінаўскай вуліцы воз затрымаўся. Як расказваюць, я скочыла на труну й пакацілася, прыгаворваючы: „А мая мамачка, а мая мамачка!" Павезьлі маму адразу ў касьцёл. На похаранах было людзей вельмі многа. Калі маміну труну спускалі ў яму, усе плакалі. Вэра крычала так голасна, што аж ахрыпла й тыдзень пасьля гаварыць не магла. А я стаяла над магілай, як чужая. Глядзела перад сабой, не знаючы, што кругом робіцца. Ня плакала, бо сьлёз ужо не хапала, выліла іх у бульбе й за ўсе дні мамінай хваробы.

Помню, год перад сьмерцяй бацькоў паслалі мяне ў час летніх канікул у Шаркаўшчыну, да дзядзькі Вінцуся, каб крыху папpавілася на здароў'і. У нас была бяда, а дзядзька тады жыў добра. Прыехаўшы да дзядзькі, я не хацела нічога есьці, хадзіла сумная й стрyтая — так сумавала за домам. Замест таго, каб паправіцца, пачала яшчэ больш худзець.

Анеля КАТКОВІЧ.

Працяг будзе.

■ НАША ПОШТА

## Адкрываем новыя старонкі гісторыі

Добры дзень, "Рэгіянальная газета"! Вельмі ўсцешаны тым, што вы працягваеце друкаваць успаміны знакамітых людзей нашага краю. Цяпер гэта ўспаміны Анелі Катковіч у артыкуле «Ад Будслава да ГУЛАГа».

Дзякуючы гэтаму, кожны з чытачоў, у тым ліку і я, мае магчымасць пазнаёміцца з жыццём землякоў, іх бытам, светаўспрыманнем, сямейнымі традыцыямі. Таксама такія ўспаміны прыадкрываюць для кожнага з нас новыя старонкі ў нашай гісторыі. Прымушаюць зірнуць на яе не збоку афіцыйных поглядаў, а ўбачыць і адчуць вачыма і душою рэальных сведкаў.

Прыемна адзначыць у вашай газеце навінку гэтага года – каляндар. Вельмі карысная і пазнавальная рэч, якая ў цікавай і простай форме нагадвае, а калі-нікалі і расказвае нешта новае з жыцця й творчасці беларускіх дзеячаў.

Напрыканцы хачу выказаць вам шчырую падзяку за навагоднія і калядныя віншаванні, якія дадалі настрою ў святочныя дні. Дзякуй!

Да пабачэння.

Ігар ШЫРКО, Ihar-Bel@tut.by

■ ВАДА ЖЫВАЯ І НЕЖЫВАЯ

# Небяспечныя калодзежы

**МАЛАДЗЕЧНА. У вадзе кожнага другога калодзежа, якіх на Маладзечаншчыне больш за 7 тысяч, перавышана колькасць нітратаў. Па словах загадчыка санітарна-гігіенічнага аддзела раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі (РЦГіЭ) Сяргея Каравая, гэта можа выклікаць кіслароднае галаданне ў дзяцей.**

Сёлета райгарінспекцыя прыродных рэсурсаў выдзеліла грошы на даследаванне вады толькі ў гарадскіх калодзежах. Іх — 550, а на раёне — 6535. У час паводкі і іншых прыродных фактараў, што пагражаюць забруджванню вады, спецыялісты РЦГіЭ правяраюць усе калодзежы. Калі «штыль», то 12 — у горадзе і 70 — у раёне. Гэта кантрольныя пункты. Даследуюць ваду і па заяўках жыхароў, што абыдзецца прыкладна ў 30 тысяч рублёў.

Сяргей Каравай лічыць, што сучасная экалогія не ўплывае на якасць калодзежнай вады. Нават наадварот. Закрытыя цалкам або часткова прадпрыемствы, а значыць менш прамысловых адходаў. Загадчыца камунальнай гігіены РЦГіЭ **Таццяна Кугара** адзначыла паляпшэнне якасці вады за апошнія 5 год. Яна мяркуе: з-за недахопу грошай людзі сталі ашмат карыстацца ўгнаеннямі. І, магчыма, больш дбайна і ўважліва гаспадарыставяцца да свайго калодзежа.



Ніякі калодзеж не гарантуе якасці вады. Асабліва, калі знаходзіцца ён у антысанітарным стане. Фота ByMedia.Net

Неаднойчы прапаноўвалася, каб пры сельсаветах дзейнічала брыгада па ачыстцы калодзежаў. Але на гэтае патрэбны фінансы, якіх няма. Калодзеж варта самастойна ачышчаць раз у год. Лепш увесну. Менавіта ў вясенне-летні перыяд вада больш забруджаная. Трэба выпампаваць ваду, пачысціць дно, апрацаваць прэпаратам, які ўтрымлівае хлор. Напоўніць вадой. Зноў выпампаваць і зноў напоўніць. Праверыць ваду ў спецыялістаў. І толькі тады карыстацца калодзежам. Не забыцца пра века на ім, замок, вядро. Бо ад догляду за студняй залежыць якасць вады і, урэшце, жыццё чалавека.

Спецыялісты заўважаюць: чым глыбей калодзеж, тым чысцей вада. Калі вам пашчасціла займець калодзеж на крынічнай вадзе, то арганізм узбагаціцца фторам, ёдам і іншымі мікраэлементамі і мінеральнымі рэчывамі. Трэба абавязкова памятаць, што па ўзроўні калодзеж павінен быць вышэй крыніцы забруджвання. Яго капаюць на адлегласці не менш за 50 метраў ад яе. Надворныя пабудовы — таксама брудота. Гэтыя правілы выканаць цяжка, калі зямельны ўчастак у 5-6 сотак, дзе месцяцца дом, гараж, хлеў, прыбіральня, як у многіх гараджан і вяскоўцаў.

Таму ў апошні час узяліся за пракладванне водаправода. Калі да хаты вада праведзеная такім чынам, калодзеж павінны закрыць. Але гаспадары з гэтым не пагаджаюцца. Папершае, як кажуць, уласнымі крывёй і потам здабыў гэтую ваду. Яна ўзрасціла і дзяцей з маленства, і кароўку з козачкай. Па-другое, мо, ямчэ больш важнае: у калодзежах вада бясплатная. Палівай гарод, мый машыну колькі хочаш! А за водаправодную варта плаціць па лічыльніку.

Мяркую, гэта акупіцца. Бо, па словах Сяргея Каравая, калодзеж не гарантуе якасці вады. Самастойна яе вызначыць магчыма толькі па смаку, паху і колеру.

Вось толькі не ведаю, ці лепш піць іржавую ваду з крана?

**Ірына РАБУШКА.**

■ АДПАЧЫНАК

## Парыбачым?.. Парыбачым...

**ВІЛЕЙКА. На Вілейскім вадасховішчы рыба ловіцца. Праўда, не так, як раней, бо танныя сеткі з "братняга" Кітая за 10 гадоў зрабілі сваю справу, але ж яшчэ ў мінулым месяцы за дзень можна было злавіць паўвядра плоткі.**

Вось што расказаў знаёмы музыкант **Віця Восіпаў** з дыска-групы "Тандэм". Гулялі яны навагодні фуршэт для прадстаўніцтва ААН у Беларусі для рэпатрыянтаў і бежанцаў у канцэртнай зале "Мінск". Сабраліся ўсе салідныя дзядзькі, але як пазналі, што музыкі з Вілейкі, пачалі пытаццa: "Ну, як там рыба, ці ловіцца?". А рыба ловіцца. Праўда, не так, як раней.

Танныя сеткі з "братняга" Кітая за 10 гадоў зрабілі сваю справу, але ж яшчэ ў мінулым месяцы за дзень можна было злавіць паўвядра плоткі. Зменілася колькасць злоўленай рыбы, змяніўся і рыбак.

Цяпер лавіць хочуць з камфортам. Каб схавацца ад ветру — а на вадасховішчы ён есць амаль заўсёды, — будуюць сцены са снегу, паліваюць вадой і атрымліваецца нешта накшталт эскімоскіх іглу. З драўляных планак і цэлафану будуюць "цяпліцы". Шыюць, а хто багацейшы, купляюць палаткі. Калі ў "цяпліцы" ці ў палатцы запаліць свечку, розніца з тэмпературай паветра звонку можа дасягаць 5-10 градусаў. А адзін умелец ловіць проста са свайго "Запарожца", праз лючок, выразаны ў днішчы. Многія прыхопліваюць у сваё ўкрыццё і прыёмнік.



Зімовая рыбалка ў цёплае надвор"е. Фота ByMedia.Net

Вось вам і першабытная рамантыка, хутчэй, цывілізаваная практычнасць. З'явіліся і новыя спосабы лоўлі.

1. Чырвоную цэглу змочваюць анісавым алеем і апускаюць у так званыя зімавальныя ямы. Ляшча тут вельмі многа, бо калі прыкласці вуха да лёду, то чуваць, як рыбы трушча луской адна аб адну. Водар анісу прыцягвае ляшча і той з задавальненнем бярэ нажыўку з тым жа пахам.

2. Невялікія акуні палююць на малька на невялікай, 1-3 метры, глыбіні. Таму калі ў сочны дзень зазірнуць у лунку, то можна ўбачыць паласатага "разбойніка". Наваднюю ёлку з бітымі шклянымі цацкамі з грузам апускаюць у такую лунку на дно за дзень да рыбалкі. Назаўтра клёў забяспечаны. Сакрэт у тым, што ёлка – гэта ўкрыццё для малька, а бляск бітых цацак нагадвае бляск рыбінай лускі. Усё гэта вабіць драпежніка. Рыбацкае шчасце не пастаяннае. Таму калі на вадасховішчы ўстанаўліваецца рыбін штыль, можна і выпіць трохі для сугрэву. Закусіўшы "сардэчнай" адбіўной (каб ссабойка не замерзла, яе кладуць на ўнутраную кішэню каля сэрца, а гэта 60 удараў у хвіліну). Пасля выпітага, а п'юць некалькі больш для сугрэву, можна і пагаварыць.

Вось тут і наслухаешся...

– Я праз рыбалку да Бога прыйшоў, – расказвае адзін.– Паехаў на Каляды рыбку паловіць, адтуль званы звоняць (з царквы затопленай). Цяпер па рэлігійных святах — толькі ў царкву.

– А для мяне рыбалка, – апавядае іншы, – як сэкс па-за шлюбам. Кожная лунка – гэта жанчына-загадка, ускрыеш не бурам, вось і адгадка.

Трэці дадае:

– А вось у мяне было: сяджу над лункай, рыба не клюе. Разззлаваўся і плюную у ваду. Што тут пачалося: снасці абарваліся, водарасцяў ў лунку нагнала, а то раптам смех пачуўся, дык такі, што мароз у параўнанні з ім спякотай здаўся. Я ўжо захацеў дадому збірацца, ды дзед з суседняй лункі дапамог. Кінуў ён у лунку кавалачак сала, свіснуў і перахрысціў яе (вадзяного, значыць, я пакрыўдзіў, а ён яго задобрыў). І што ты думаеш: праз 5 хвілін клёў пачаўся.

Прыязджайце на вадасховішча, самі паловіце, паслухаеце, а, можа, і раскажаце.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

■ НАША ПОШТА

## Жывуць бабры ля Краснага

**У вашай газеце, у нумары 3 ад 16 студзеня, з цікавасцю прачытаў артыкул "Бабрам не даюць спакою" і не ўстрымаўся, каб не выказаць свой пункт погляду, бо ведаю гэтага звярка гадоў 20-30.**

Жыве ён у маім агародзе, каля якога цячэ рэчка Вуша, грызе яблыні, вішні, слівы, парэчкі. Не па густу яму каліна, лаза і вярба, якая цвіце жоўтымі кветкамі. Бабёр лазіць у сад па яблыкі, ад вады адпаўзае ўначы на 20-40 м. Зубы мае моцныя, жоўтыя. Трэскі ад згрызенага дрэва, як пасля сякеры.

Частавалі мяне тушаным мясам бабра. Не надта смачнае, бо мае спецыфічны пах. Але калі прыглушыць яго больш моцным і больш пахучым прадуктам, то есца добра.

Калі бабёр пабач з табой плясне на вадзе сваім прапікам-хвастом, то нервовы чалавек можа адчуць у штанах вільгаць і цяпло.

Вымушаны весці барацьбу з ім, бо стаміўся кожны год садзіць вярбу ля рэчкі. Цяпер усе вербы "сядзяць" у ахове старых бочак без дна. Не далезе да ствала! Адзін сусед амаль усе яблыні ў садзе абгарнуў сеткай. Вядуць барацьбу з ім і дарожнікі: кожную вясну на ўскрайку Краснага засыпаюць канавы ад іх нораў побач з асфальтам. А гэтым летам пагрызлі кабель сувязі. А там жа такая моцная абалонка. Усё гэта гаворыць пра тое, што ў населеным месцы бабры не пажаданыя.

Грэбля возера ў Красным запёрла іх, дык яны пайшлі сялішча ўверх па рацэ. З электрычкі былі бачны іх хаткі і маленькія грэблі ля вёсак Бяры і Вуша. Летась у зоне іх пасялення правялі меліярацыйныя работы, а восенню паўстаў жудасны малюнак: бабры змушана ўперліся ў грэблю возера ля Аляхновіч. Там рэчка ўжо мелкая, дык яны зрабілі маленькі падпор і зноў жывуць побач з людзьмі. Тут іх трэба пашкадаваць! Я лічу, што на ўчастку ракі ад Краснага да Аляхновіч іх трэба адлавіць і перасяліць.

А нядаўна вяртаўся з Мінска электрычкай і ўбачыў, як сякуць дрэвы побач з іх апошняй грэбляй ля Аляхновіч. Без ежы яны ўсе загінуць, і таму не будзе каго лавіць і ратаваць.

**Аляксандр ХАРЫТОН, м. Краснае.**

■ НАВІНЫ

## Новыя выданні ў Нацпарку

**МЯДЗЕЛ. 2 новыя брашуры выдалі ў Нацыянальным парку "Нарачанскі". Адна прысвячаецца экалагічнаму турызму школьнікаў, а другая — апісанню прыродных комплексаў Нацпарку.**

Гэта ўжо не першая спроба падрыхтоўкі выданняў у Нацыянальным парку. Тут ужо выпусцілі "Даведнік па Нарачанскаму краю". Штомесяц выходзіць і газета "Экалагічны веснік".

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

# Усё дзеля кахання

**У Дзень святога Валянціна нават самыя сур'ёзныя людзі планеты здзяйсняюць мноства вар'яцтваў. Дзяржаўны сакратар Амерыкі, «жалезная ледзі» Мадлен Олбрайт, напрыклад, можа падарыць кожнаму ўдзельніку пасяджэння Савета Бяспекі ААН па прыгожаму мяшэчку з прысмакамі. А перуанскія тэрарысты ў гэта свята прапускалі да сваіх закладнікоў пасрэднікаў з шакаладкамі.**

14 лютага павышаецца нагрузка на работнікаў пошты, лік электронных пасланняў у Інтэрнэце ідзе на мільёны. Летась у гэты дзень у ЗША набывалі 24 тысячы ружаў у хвіліну. І гэтаму святу сусветнага вар'яцтва, сцвярджаюць даследчыкі, ужо 7 стагоддзяў.




## Хлопцы ў «сетцы»

Пакуль знаўцы спрачаюцца пра паходжанне дня Святога Валянціна, моладзь усяго свету знаёміцца, святкуе, абменьваецца падарункамі, расстаецца і зноў знаёміцца. Нядаўна на старонках «РГ» мы закраналі тэму знаёмстваў, у тым ліку праз Інтэрнэт. **Mleena@Bk.ru** высветліла, што адзінокіх мужчын у Сетцы на парадак больш. Цяпер прапануем вам мужчынскі погляд на гэтую з'яву.

Для душы працей знасці чалавека ў рэальным свеце, а не віртуальным.

## «Статыстыка маніць!»

**Аляксей Канавалаў**, 22 гады, вэб–дызайнер, аўтар шэрагу цікавых Інтэрнэт–праектаў:

– Па роду сваёй дзейнасці мне даводзіцца ледзь не суткамі знаходзіцца ў сетцы Інтэрнэт, таму аб рабоце розных сайтаў знаёмстваў ведаю нямала. Нават даводзілася супрацоўнічаць з імі пры стварэнні уласных праектаў. Маёй анкеты на іх няма, бо для работы карысці ў гэтым ніякай. А для душы працей знасці чалавека ў рэальным свеце, а не віртуальным. Раскажу пра хітрыкі адміністратараў сайтаў.

Напрыклад, як працуе адзін вядомы маскоўскі сайт знаёмстваў. Рэйтынг яго дастаткова высокі, як і колькасць наведвальнікаў.

Вы пачалі пошук і ўбачылі анкету ўпадабанай вамі дзяўчыны. Яна зацікавіла вас так, што хочаце пазнаёміцца. Спрабуючы звязацца з ёй, высвятляеце, што для гэтага трэба зарэгістравацца на гэтым сайце. У наступны момант вы выяўляеце, што рэгістрацыя – гэта стварэнне ўласнай анкеты. Што мы маем? Правільна, колькасць зарэгістраваных карыстальнікаў, як і колькасць анкет, павялічылася на адзінку.

У нашым выпадку наяўнасць уласнай анкеты на сайце зусім неабавязковая: мы не хочам "свяціцца". Праводзім некалькі простых маніпуляцый і выдаляем сваю анкету. Цяпер яна заблакіраваная, іншыя наведвальнікі сайта не могуць яе паглядзець. Аднак вы ўсё роўна застаяцеся зарэгістраваным карыстальнікам – агульная колькасць анкет не змяншаецца, але добрую палову з іх прачытаць нельга. У выніку атрымліваецца, што анкет на такіх сайтах значна менш, чым здаецца, і адпаведна выбар вузейшы.

Каб пацалунак быў салодкім і гарачым, вазьміце каханую дзяўчыну, пакладзіце ёй у рот 2 кавалачкі цукру, заліце кіпенем і старанна перамяшайце чайнай лыжачкай.

## «Тавар»

**Дзяніс Бойка**, 27 гадоў, адміністратар Інтэрнэт–клуба:

– Шмат хто з наведвальнікаў нашага клуба карыстаецца паслугамі сайтаў знаёмстваў. Ёсць кліенты, якія мэтанакіравана выкарыстоўваюць Інтэрнэт менавіта так. У асноўным гэта жаночая палова чалавецтва, якая жадае выйсці замуж за іншаземца.

Што да мяне, то яшчэ гадоў 5 таму я часцяком наведваў такія сайты, каб не сумаваць. З узростам і ў выніку назіранняў за кліентурай стаўленне да гэтай паслугі Інтэрнэта ў мяне змянілася, стала вельмі негатыўным. Крыўдна за дзяўчат, што размяшчаюць свае анкеты. Большасць мужчын ацэньваюць іх як звычайны тавар. Складваецца ўражанне, што хлопцы купляюць коней ці сабак, абмяркоўваючы іх недахопы. Мне сорамна за мужчын.

## «Прыкольна...»

**Сяргей К.**, 20 гадоў, студэнт, пастаянны наведвальнік Інтэрнэт–клуба:

– Сайты знаёмстваў – тая частка Інтэрнэта, якую я наведваю з задавальненнем. Некалькі маіх анкет размешчана на такіх сайтах, і на чужыя адказваю. Кантактаў шмат. Былі выпадкі цікавых знаёмстваў з працягам. Аднойчы я пабаяўся падысці да дзяўчыны, з якой дамовіўся сустрэцца. На фотаздымку яна атрымалася яшчэ больш–менш... Так і прайшоў міма. Усё гэта прыкольна...

## Следчы эксперымент

Для больш аб'ектыўнай ацэнкі мужчынскіх прыярытэтаў пры знаёмстве па Інтэрнэце я пайшоў на эксперымент. На вядомым сайце ў раздзеле «Гарачае каханне» размясціў 2 анкеты з аднолькавымі фатаграфіямі адной маёй знаёмай, што згадзілася дапамагчы мне ў пошуках ісціны. Адрозніваліся яны толькі зместам. У першай анкеце ў графе «Пра сябе» мы напісалі дадзеныя, якія пішуцца ў большасці анкет: прыгожая, зграбная, з пачуццём гумару і гэтак далей, а ў графе «Пра цябе» апісалі «Прынца на белым кані». У другой анкеце стварылі вобраз сцервы, якая шукае грашавіты мяшок. Механізм пусцілі ў дзеянне.

І прынцэса, і сцерва карысталіся аднолькавай папулярнасцю сярод наведвальнікаў сайта.

Якое ж было наша здзіўленне, калі мы ўбачылі прыкладна аднолькавую колькасць адказаў на анкеты. І прынцэса, і сцерва карысталіся аднолькавай папулярнасцю сярод наведвальнікаў сайта. Праўда, я заўважыў асаблівасці адказаў на анкеты. Па-першае, сур'ёзных адказаў не так ужо і многа. У асноўным яны прыйшлі ад мужчын 35-40 гадоў. Па-другое, 68,3% адказаў складаліся літаральна з двух радкоў і ўтрымлівалі канкрэтную прапанову сустрэцца (дзякуй Богу, цану не называлі). Па-трэцяе, склалася ўражанне, што палова тых, хто адказаў на анкету «Сцервы», увогуле не чыталі пададзеныя намі звесткі ў адпаведных графах. Аказалася, такой мужчынскай «няўважлівасці» ёсць тлумачэнне.

На адным з сайтаў выпадкова ўбачыў анкету яшчэ адной маёй знаёмай. Мы маем зносіны ужо каля 7 гадоў, і я добра ведаю пра яе жыццё і жыццё яе сям'і. Напісанае ёю пра сябе не лезла ні ў якія вароты, нягледзячы на ўсю маю павагу да яе. Створаны вобраз «самадастатковай, самастойнай» дзяўчыны на справе не адпавядае рэальнасці. Чаго ж здзіўляцца мужчынскай недаверлівасці да інфармацыі пра дзяўчат, якую яны падаюць у анкетах!

Пад канец варта сказаць, што аўтар гэтых радкоў таксама «грэшны». Выпадак знаёмства праз Інтэрнэт ёсць і ў маёй біяграфіі. Ён аказаўся павучальны. Спачатку мне здалося, што я знайшоў чалавека, якога шукаў усё жыццё. Аднак у працэсе развіцця нашых адносінаў аказалася, што мы даволі розныя людзі. Карацей, мы не паспелі зразумець адно аднаго, пра што цяпер вельмі шкадую. Але жыву спадзяваннем: гэта не перашкодзіць нам застацца добрымі сябрамі.

**Кірыл СЛАБКО, Angelias@mail.ru.**

# Падарунак да дня закаханых

**Напярэдадні 14 лютага пытанне «Што і як падарыць?» мучае не адну галаву, і без таго затуманеную каханнем. Прапануем невялікую дапамогу.**

## Рыхтуем падарункі

Самае простае, таннае і універсальнае — «валянцінкі» коштам ад 300 да 800 рублёў у залежнасці ад памеру. Такі знак увагі можна адправіць і каханаму або каханай, і даўняму сябру, і нават начальніку, якога вы цэніце як кіраўніка. Паштоўка з сюжэтным малюнкам ці бессюжэтнымі сэрцайкамі каштуе ад 500 да 1500 рублёў. Для аматараў падарункаў практычных і недарагіх у шматлікіх шапіках за 800 рублёў прадаюцца пластмасавыя бірулькі для ключоў у выглядзе сэрца. Калі ваша абранніца (мужчынам гэта ўласціва толькі да пэўнага ўзросту) любіць плюшавых мядзведзікаў, сабачак і іншых пакемонаў, падарыце ёй музычнае сэрца. На вобмацак яно мяккае, націсніце мацней — зайграе. Такая міні-падушка і сінтэзатар у «адным флаконе» прадаецца ў тых жа шапіках за 3000-3500 рублёў. Рамантычным асобам спадабаюцца надзіманыя шарыкі ў выглядзе сэрца. Іх можна насіць на нітачцы, а можна ўпрыгожыць імі пакой. Чым шарыкаў больш, тым большы эфект.

Баіцеся, што ваш падарунак ужо 15 лютага закінуць на самую дальнюю паліцу шафы? Тады дарыце садавіну: яна ўтрымлівае карысныя для здароўя вітаміны. Можна купіць адзін яблык ці апельсін і выразаць на ім сэрца — гэты варыянт самы танны. Маеце больш грошай — выкладзіце з садавіны сімвал свайго кахання. Дайце волю фантазіі: акрамя сэрца, ёсць іншыя сімвалы.

Мужчыны, якія маюць вельмі многа грошай і жадаюць здзівіць каханую, могуць паспрабаць такі праверaны падарунак, як мільён пунсовых ружаў. Жанчыны гэта ацэняць. Яшчэ больш спадабаецца ім такая традыцыйная банальнасць, як футра або брыльянты. Але будзьце асцярожныя: некаторых беларусак такая «шырыня душы» можа хутчэй спалохаць, чым уразіць.

Пра свае пяшчотныя пачуцці можна сказаць і больш узвышана, «мовай матылькоў». Закаханыя ў Аўстраліі, Заходняй Еўропе і Амерыцы абменьваюцца матылькамі, адпраўляюць адно аднаму жывыя «паштоўкі». Уяўляеце, як эфектна: прыходзіць спецыяльны аб'ёмны канверт, вы яго раскрываеце — а адтуль вылятае экзатычны, неверагодна прыгожы матылёк, а то і два-тры, у залежнасці ад памеру кашалька і шчодрасці адпраўшчыка. На жаль, у Беларусі такія падарункі пакуль што не вельмі распаўсюджаныя. Ды і абаронцы прыроды пратэстуюць.

## І атрымліваем іх

Можна доўга меркаваць, які падарунак падрыхтавала вам ваша «палавінка», але ў статыстыкаў ужо гатовы адказ: 5 закаханых з 10 дораць прыгожую каробку шакаладных цукерак. Вы гатовы атрымаць такі падарунак?

Кажуць, што шакалад утрымлівае тыя ж рэчывы, што і марыхуана, толькі ў меншых дозах. Для таго, каб прадказаць, як паставіцца да шакаладу аб'ект вашага захаплення, звяртацца лепш не да хімікаў, а да астролагаў.

**Авен** з'ядае ўсе шакаладкі за адзін прысест.

**Цялец** купіць 2 каробкі цукерак і, старанна пакапаўшыся ў іх, пакіне вам толькі цукеркі з фруктовай начынкай.

**Блізнятам** трэба абавязкова разламаць кожную шакаладку, каб вызначыцца з выбарам.

**Рак** расцягне іх надоўга, так што самай маленькай каробачкі хопіць мінімум на месяц.

**Леў** забярэ ўсю каробку сабе і толькі пасля, адчуўшы сябе яе адзіным уладальнікам, падзеліцца з вамі.

**Шалі** нарэжуць шакалад на пліткі на «адзін укус»... з дапамогай нажа і відэльца.

**Дзева** выбера 2 каробкі шакаладу — белага і чорнага — адну для вас, другую для сябе.

**Скарпіён** не можа выстаяць перад спакусай размазаць шакалад па целе партнёра, а потым старанна яго злізаць.

**Стралец** заказвае толькі імпартны шакалад.

**Казярог** аддае перавагу выключна труфелям.

**Вадалей** увогуле не есць шакалад — лепш ужо батончыкі з разынкамі і мюслі; зноў жа, здаровае харчаванне...

**Рыбы** раздадуць шакалад усім сябрам і знаёмым, забыўшы пакінуць сабе нават кавалачак.

Ці знайшлі вы сябе? А свайго каханага? Салодкага вам свята!

**Святлана і Валянцін ЦІШКО.**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Фотакартка з далёкай Японіі

**Гэтая фотакартка раскажа пра тое, чаго і днём з агнём не знайсці нават у тоўстым школьным падручніку. У вочы кідаецца юная японка і выклікае непаразуменне: чаму яна сядзіць сярод мужчын еўрапейскай знешнасці? Здзівіць і адбітак слоў лацінкаю ўнізе фотаздымка: "Yokohama. K.Hagiwara.". Екагама – паблізу Токіо. На адвароце дакладная дата і месца: "Санаторый Чыгасакі ў Японіі, 1918 год, 29 жніўня". У верхнім радзе сярод іншых салдат царскай арміі ў цёмных акулярах — віляйчанін Уладзімір Яцэвіч.**

У бальшавіцкай Расіі "ішоў у барацьбе і трывозе баявы васемнаццаты год". Як жа так склалася, што салдаты бавяць час у далёкай Японіі, калі заходняя частка іхняй Радзімы акупаваная нямецкімі войскамі?

Сын Уладзіміра Яцэвіча Юльян расказаў, што нарадзіўся бацька недалёка ад Плешчаніц у мястэчку Хатавічы. Скончыў Барысаўскае гарадское вучылішча. Працаваў на мясцовай запалкавай фабрыцы. Пазней – у ваенным шпіталі ў Рызе. Служыў на чыгунцы ў Растове-на-Доне.

Руска–японская вайна загнала Яцэвіча ў 1905 годзе ў царскую армію. Але пакуль навабранцаў муштравалі, а затым везлі па бяскрайніх сібірскіх прасторах да Уладзівастока, вайна і скончылася.

Вайсковая служба Яцэвіча зацягнулася аж да першай сусветнай вайны. Тады іх часць перакінулі на руска–германскі фронт. Прызначылі ў разведку.

У гэты час Японія, нядаўні зацяты вораг Расійскай імперыі, далучылася да краін Антанты і аб'явіла вайну Германіі. Японія захапіла нямецкія калоніі ў Кітаі. Усходняя суседка забылася пра нядаўнюю варожасць да Расіі. Яна прыняла на лячэнне многіх рускіх параненых. І ставіла іх на ногі ў шпіталях і санаторыях.

— Бацьку, – тлумачыць сітуацыю Юльян,– у разведцы знявечыла нямецкая куля. Цяжкае раненне на два гады прыкавала яго да ложка. Лячыўся ў Омску, адкуль і трапіў на тры гады ў Японію далечвацца.

Пасля кастрычніцкага перавароту Японія не прызнала бальшавіцкі ўрад. Нават пачала інтэрвенцыю на Далёкім Усходзе. Тады рускія генералы, якія ратаваліся ад бальшавікоў у Францыі, нанялі параходы і вывезлі суайчыннікаў у Марсэль, што на поўдні Францыі.

Уладзіміра Яцэвіча, расказвае сын, цягнула на Радзіму. Дзе цягніком, дзе пешшу рушыў былы салдат дадому. Давадзілася яму, інваліду, працягваць руку і за міласцінай. Дабіраўся доўга. Заходняя Беларусь ужо была пад Польшчай. З Хаценчыц бальшавікі ў родныя Хатавічы не прынялі. Вярнуўся ў Вілейку. Нейкі час працаваў пад горадам у Цынцавічах, затым зноў асеў у Вілейцы на сталае жыхарства. Ажаніўся ў 1924 годзе. Было двое сыноў і дачка. Пражыў 91 год. Да апошняга дня ўспамінаў пра тую малавядомую старонку першай сусветнай і свае цяжкія, доўгія і заблытаныя дарогі да Уладзівастока і ў Японію.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**



Фота з альбома Юльяна Яцэвіча.

Група расійскіх салдат на лячэнні ў японскім шпіталі. У цёмных акулярах – віляйчанін Уладзімір Яцэвіч. 1918 год.

■ КАЛЯНДАР

**13 лютага. 55 гадоў назад, 13 лютага 1949 года, у вёсцы Вузла Мядзельскага раёна нарадзілася Ніна Мікалаеўна Гануш – самадзейная мастачка.** Ніна з дзяцінства любіла маляваць. Скончыла Барысаўскае вучылішча будаўнікоў, атрымала прафесію маляра. З 1976 па 1991 год працавала кінамеханікам, увесь вольны час прысвячала маляванню. Так з'явіліся карціны "Вузлянскі мост", "Пейзаж з царквой", "Сухія кветкі", "Вузлянскія далягляды" і іншыя.

**15 лютага. 55 гадоў назад, 15 лютага 1949 года, у Маладзечанскім раёне нарадзіўся Пётр Васільевіч Гарэлік** – хірург, доктар медыцынскіх навук, прафесар, член-карэспандэнт Акадэміі медыцынскіх навук РБ, з 1974 па 1978 – доктар Маладзечанскай гарадской бальніцы, з 1978 года працаваў у Гродзенскім медінстытуце, з 1998 года – рэктар Гродзенскага медыцынскага універсітэта. Апублікаваў больш за 100 навуковых работ, напісаў падручнік па хірургіі. Узнагароджаны залатым медалём імя Альберта Швейцэра Акадэміі медыцынскіх навук Рэспублікі Польшча.



Пётр Васільевіч Гарэлік.

■ З АРХІВАЎ ПАМЯЦІ

## Свет Кушлянскага наваколля...

**Даўно збіраў архіў фотаздымкаў пра віленскі край і неўпрыкмет сабраў і асобны канверт са здымкамі Міколы Ермаловіча.**

Адзін з іх зроблены Анатолем Калядой. На здымку – **Мікола Ермаловіч і Уладзімір Содаль.** Так, Уладзімір Содаль – знаны даследчык Кушлянаў, жыцця і творчасці Францішка Багушэвіча. У свой час Уладзімір Содаль напісаў: "...Таямнічы свет кушлянскага наваколля Францішак спазнаваў праз легенды і паданні. Кушляны сфарміравалі ў юным Багушэвічу паэта...".

На адваротным баку здымка ёсць удакладненне, зробленае рукою Уладзіміра Содаля: "На Траецкай Гары паблізу опернага... Дзесь там, на пагорку, віруе мітынг. Погляд на мітынг з лавачкі. Мікола Ермаловіч і Уладзімір Содаль. Пасля мы вярталіся з М.Ермаловічам разам дахаты. І ён расказваў пра свае паездкі ў Кушляны...". Пазначана і дата — 1999 год.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



На Траецкай Гары паблізу опернага... Дзесь там, на пагорку, віруе мітынг. Погляды на мітынг з лавачкі. 1999 г. Мікола Ермаловіч і Уладзімір Содаль. Пасля мы вярталіся з М.Ермаловічам разам дахаты. І ён расказваў пра свае паездкі ў Кушляны...

Фота Анатоля КАЛЯДЫ.

КОНКУРСЫ

## Трошкі сонца прыбавіць...

**Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" правяло конкурс дзіцячых сачыненняў – да 450 годдзя Рэфармацыі на Беларусі. Рэфармацыя, нагадаем, — той рух, што быў скіраваны супраць рымска-каталіцкай царквы.**

Ідэйная крыніца Рэфармацыі – гуманізм эпохі Адраджэння. "Галоўнае месца ў ідэалогіі Рэфармацыі займала вучэнне пра тое, што для выратавання душы верніка не патрабуецца пасрэдніцтва царквы, таму адмаўлялася неабходнасць яе існавання з усёй іерархіяй на чале з папам рымскім...".

Па выніках конкурсу мінскае выдавецтва "Беларускі кнігазбор" накладам у 500 асобнікаў выпусціла зборнік сачыненняў школьнікаў – "Гістарычныя вандроўкі". Сярод 32 работ – і публікацыя **Ганны Адамовіч** з мястэчка Лебедзева Маладзечанскага раёна. Дзяўчынка расказвае пра свайго земляка – знакамітага мастака Рамана Семашкевіча (яму, дарэчы, ў сёлетнім кастрычніку — 100 гадоў). Завяршае сачыненне верш Ганны Адамовіч "Раману Семашкевічу прысвячаю".

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ МОВА

## Экзамены па–беларуску

**МІНСК. Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ) заклікае выпускнікоў сярэдніх школ здаваць іспыт па беларускай мове.**

У заклiку да беларускай моладзі адзначаецца, што сёлета ў краіне змяняецца форма здачы выпускных іспытаў за курс сярэдняй школы і замест чатырох экзаменаў вучні будуць здаваць толькі тры. Прычым першы, абавязковы, — у форме тэсту па беларускай альбо рускай мове — будзе адначасова і ўступным іспытам.

Рада ТБМ заклікае вучняў і будучых абітурыентаў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў краіны — нашчадкаў Францішка Скарыны і Льва Сапегі, Янкі Купалы і Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча і Васіля Быкава — зрабіць выбар на карысць беларускай мовы і праверыць свае веды менавіта на ёй. Практыка паказвае, што тыя вучні, якія аддаюць перавагу беларускай мове, здаюць іспыт лепш, падкрэсліваецца ў заклiку.

«Пакуль будзе гучаць з вашых вуснаў адна з самых прыгожых моваў свету — беларуская, будзе існаваць наш народ і наша незалежная краіна Беларусь», — гаворыцца ў заклiку.

**Паводле БелаПАН.**

■ СУБ'ЕКТЫЎНА

# Спартыўны гонар Беларусі

**Савецкі час запомніўся тым, што спартсмены СССР заўсёды змагаліся за самыя высокія месцы ў любых адметных стартах. Гэта пастаянна паказвалі па тэлебачанні.**

Калі ў дзевяностых самастойная Беларусь выйшла на сусветную арэну, нашы каманды сталі вельмі часта прайграваць, а прадстаўнікі асабістых відаў радаваліся нават дваццатым месцам. Буйных спаборніцтваў на тэрыторыі краіны не праводзілася, а трансляцый з-за мяжы па БТ амаль не было.

У апошнія гады сітуацыя стала іншай, яскравым сведчаннем была мінулая нядзеля, 8 лютага. Аматары спорту мусілі ўзброіцца пультамі дыстанцыйнага кіравання, каб пераключацца паміж ОНТ (тэнісны матч Кубка Дэвіса Беларусь-Расія з Мінска), БТ (чэмпіянат свету па біятлоне з Германіі) і Ладам (хакейны турнір "Еўравыклік" з Мінска).

Спорт аб'ядноўвае маіх знаёмых, людзей рознага ўзросту і інтарэсаў, якія дагэтуль мала ім цікавіліся: пажылы спецыяліст-электроншчык, настаўніца сярэдніх гадоў, юнак — аматар аўтамабіляў. Яны дзяліліся ўражаннямі з поўным веданнем падзей папярэдніх



Максім Мірны парадаваў беларускіх балельшчыкаў. Фота з архіва «РГ»




Беларуская зборная качае тэнісіста Уладзіміра Ваўчкова ў першыя хвіліны яго перамогі падчас матча Кубка Дэвіса. Фота ByMedia.net.

дзён. Было вельмі прыемна яшчэ і яшчэ раз перабраць у памяці пятнічныя тэнісныя баталіі з траўмай **Уладзіміра Ваўчкова** і перамогай **Максіма Мірнага** ў матчы працягласцю 4 гадзіны, суботнюю бронзу, якую падзяліла з канкурэнткай Кацярына Іванова ў гонцы біятланістак, нядзельную складаную перамогу хакейнай зборнай.

Каб упэўніцца, што стаўленне да спорту ва ўсім свеце аднолькава фанатычнае, дастаткова было ў нядзелю паглядзець спаборніцтвы мужчын-біятланістаў. Пасля апошняга агнявога рубяжа немец Грос апярэджваў француза Пуарэ на 15 секунд. Француз валодае лепшай хуткасцю, таму за кіламетр да фінішу дагнаў уцекача. Але Гроса на біятлонным стадыёне падтрымлівалі тысячы суайчыннікаў – ён вытрымаў дуэль на дыстанцыі і перамог.

Гэткі ж ажыятаж спадарожнічаў бліскуча арганізаванай тэніснай сустрэчы пад дахам перааббсталяванага футбольнага манежа і быў адным з рашаючых фактараў выдатнай перамогі беларусаў.

...Ішлі апошнія хвіліны тэнісных выпрабаванняў. Ваўчкоў, які днём раней не мог ступіць на нагу і карыстаўся мыліцамі, упэўнена перамагаў свайго саперніка. У адной застольнай кампаніі (дакладна гэта ведаю) на той момант жанчыны спынілі свае бясконцыя размовы, а мужыкі забыліся, што хацелі выйсці пакурыць.

Ім было прыемна ганарыцца за Беларусь і яе спартсменаў!

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ ПЛАВАННЕ

**МАЛАДЗЕЧНА. Чэмпіянат краіны прайшоў 3-6 лютага ў Мінску.**

Віталь Барташэвіч заваяваў два першыя месцы (50 м брасам і 100 м брасам) і два другія месцы (200 м брасам і комплексная эстафета 4 па 100 м).

Анастасія Лях заваявала першае (комплексная эстафета 4 па 100 м), другое (200 м брасам) і трэцяе (50 м брасам) месцы.

Яўгенія Ламака заваявала трэцяе месца (400 м комплексам).

■ ГАРАДОШНЫ СПОРТ

**МАЛАДЗЕЧНА. Чэмпіянат краіны ў закрытым памяшканні. 6-8 лютага.**

Прынялі ўдзел 26 спартсменаў. Тройку прызёраў склалі гаспадары. Што называецца, без варыянтаў, перамог Генадзь Сушко (117 біт), які працуе на МЭСе. Другім стаў тэхнік КДЮСШ Віктар Данілаў (129) і трэцім – рабочы "Маладзечнамэблі" Дзмітрый Туравец (132).

На першы этап розыгрышу Кубка Еўропы ў Ніжні Ноўгарад у складзе нацыянальнай зборнай, акрамя іх, адправілася яшчэ трое маладзечанцаў Дзмітрый Шайко, Аляксандр Карповіч і Ігар Бладыка. Таксама туды паехала каманда, складзеная з прадстаўнікоў Бярозаўкі і Мінска.

■ ЛЫЖНЫЯ ГОНКІ

**ВІЛЕЙКА. Каманда супрацоўнікаў райвыканкама заняла трэцяе месца на спаборніцтвах кіруючых кадраў, якія з'ехаліся з усёй вобласці 7 лютага ў Лагойск.**

У складзе былі Наіна Лычаўка (другое месца на дыстанцыі 2 км), Міхаіл Шульжыцкі (трэцяе месца на 3 км), Сяргей Няхайчык і Іван Шаблыка.

■ СТАТЫСТЫКА

**"Маладзечна-2000" пакінула вышэйшую лігу, таму не будзе больш выступаць у турніры дублёраў, які быў арганізаваны тры гады таму. З прыведзеных ніжэй лічбаў няцяжка канстатаваць, што кожны з новых сезонаў прыносіў камандзе спад вынікаў.**

Даюцца па парадку: год, месца, баланс, працэнт ачкоў ад магчымага.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 2001 | 10 | 8 | 5 | 13 | 23-47 | 7% |
| 2002 | 14 | 3 | 3 | 20 | 22-69 | 5% |
| 2003 | 16 | 1 | 2 | 27 | 11-108 | 6% |
| Усяго: | 82 | 12 | 10 | 60 | 56-224 | 19% |

Найбольш матчаў правялі: Харэцкі – 50, Антановіч – 48, А.Альховік – 45, Касцюк – 44, Матусевіч – 43, Лявончык – 42, Грыхуцік – 36, Абановіч – 33, Відрук – 32, Дрозд – 31.

Найбольш галоў забілі: Грыхуцік – 8, Антановіч – 5, А.Альховік, Вільтоўскі, Млечка, Сідарэнка, Смірноў – па 4.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АНОНС

**14-15 лютага. Маладзечна. Лыжны стадыён.**

Рэспубліканская спартакіяда спартыўных школ.

■ БІЛЬЯРД

## Мінулы год

**МАЛАДЗЕЧНА. На працягу 2003 года ў клубе "Караліна" было праведзена некалькі агульнагарадскіх турніраў.**

Юнакі. Красавік. 1.Аляксандр Салаўёў. 2.Андрэй Верын. 3.Ягор Раковіч.

Дарослыя. Май. 1.Ігар Агузаў. 2.Уладзімір Патапаў. 3.Генадзь Скапец.

Дарослыя. Кастрычнік. 1.Валерый Рубін. 2.Аляксандр Чорны. 3-4.Уладзімір Патапаў, Анатоль Гернер.

Яшчэ спаборнічалі напярэдадні 9-га мая ветэраны, а дзяўчаты рыхтаваліся да рэспубліканскага старту, дзе выдатна сябе праявілі **Наталля Стасіловіч** і **Вераніка Гаршкова**.

Юнакі на рэспубліканскім узроўні выступалі двойчы. Гэта былі майскі чэмпіянат краіны і снежаньскі турнір "Дзеці супраць наркотыкаў". **Аляксандр Салаўёў** на чэмпіянаце заняў выдатнае трэцяе месца. Добрыя перспектывы маюць 13-гадовы **Аляксей Багамолаў** і 15-гадовы **Ягор Раковіч**, а таксама **Юрый Рак** з **Аляксеем Платонавым**.

Заснавальнік клуба, вядомы більярдыст **Іван Раковіч** (родам з Маладзечна, цяпер жыве і працуе ў Мінску) расказаў, што з хлопцамі займаецца **Уладзімір Патапаў**, аддаючы пад эгідай клуба гэтай справе каля шасці гадзін у тыдзень. Да таго ж лепшыя выхаванцы маюць права на бясплатны ўваход для самастойных заняткаў.

На праведзеным у кастрычніку другі год запар Кубку горада сабралася ўся беларуская эліта (перамог мінчанін **Аляксандр Жылкін**). Гэты турнір уваходзіў у пералік самых значных, што давалі магчымасць спартсменам набраць балы ў залік рэйтынгу па выніках года. Дарэчы, Іван Раковіч скончыў сезон на сёмай пазіцыі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

# Была такая каманда...

**Пачатак у нумарах за 30 студзеня і 6 лютага.**

Паступова каманда амаладзілася за кошт мясцовых гульцоў. У першую чаргу, гэта браты Кандулінскія, якія, між іншым, спачатку займаліся баскетболам у трэнера Барыса Галіна. Віктар (1945) – нападаючы, Аляксандр (1948) – абаронца. Яшчэ нападаючы **Віктар Юрынаў**, а таксама **Уладзімір Калодны, Анатоль Ішчанка** (прыехаў з Украіны), **Пётр Кавалевіч, Віктар Ткачэнка, Алег Шадыра.**

У розныя гады былі розныя капітаны, напрыклад, **Траскоўскі** і **Саланенкаў** у 1963-м, а потым ганаровая павязка замацавалася за **Боханам.**

Па заканчэнні сезона-63 многія гульцы атрымалі запрашэнне ад іншых каманд. У выніку трое адправіліся на павышэнне ў калектывы класа "Б", што не магло не паслабіць склад. **Бёрдачкін** – у Магілёў, **В.Кандулінскі** – у Брэст (спачатку спрабаваў сябе ў дублі сталічнага "Дынама"), **Зайцаў** – у Гродна (праз год вярнуўся).

Пра асаблівасць манеры гульні сваіх партнёраў і падапечных расказвае **Юрый Адзінцоў:**

— Найбольш забіваў Ваня Траскоўскі, але трэба разумець, што на яго працавала ўся каманда. Ён быў сапраўдны "таран", мог прабіць абарону. Дыспетчар – вядома ж, Слава Бёрдачкін, любімец публікі. Раўнацэннай замены яму не было. І пас аддаць, і гол забіць, добра прадбачыў развіццё сітуацыі. Па фактуры (рост, вага) вылучаўся Бохан – гэткі прыгажун. Ён добра бегаў, скакаў, гуляў з абедзвюх ног. Беразнеў любіў сабраць вакол сябе чалавекі тры-чатыры, "гуляўся" з імі".

Аўтар гэтага матэрыялу ўзяў на сябе адказнасць і склаў сімвалічную зборную тых гадоў.

Варатар Зайцаў, абаронцы **Васаган** (правы), **Шэлюх** (цэнтральны), **Адзінцоў** (левы), паўабаронцы Бохан і **Сіроткін**, нападаючыя **Максімаў** (правы крайні), **Катоўскі** (правы інсайд, гэта значыць, паміж цэнтрам і краем крыху ззаду), Траскоўскі (цэнтральны), Бёрдачкін (левы інсайд), Саланенкаў (левы крайні). Беразнеў і В.Кандулінскі таксама маюць поўнае права быць у гэтым спісе, але яны ўліліся ў склад пазней за астатніх.

Сістэма гульні 3-2-5 якраз у тыя гады аджывала свой век, бо зборная Бразіліі паказала свету прагрэсіўную мадэль 4-2-4. Ветэраны "Спартака" успамінаюць, што яе ў СССР у 1963 годзе ўкаранялі па загаду зверху. Праўда, Шувалаў яшчэ да таго "адцягваў" Бёрдачкіна назад з фронту атакі.

## Сярэбраныя сезоны

У 1961 годзе ў нашай зоне выступілі дзевяць каманд. Двухкругавы турнір "Спартак" завяршыў з наступным балансам: +12=2-2 38-19. У выніку – другое месца. Першынстваваля ў зоне пінская "Хваля" – будучы чэмпіён. Дома іх перамаглі 3:1, на выездзе саступілі 0:1. У фінальным турніры шасці каманд гулялі з выхадцамі іншай зоны (баланс: +1=2-1 6-5 і дзве няяўкі саперніка). З трэцім прызёрам мінскім "Спадарожнікам" ачкі падзялілі (3:1 і 2:3). Баланс фінальнай пулькі атрымаўся такім: +3=3-2 11-8 і дзве няяўкі саперніка.

У тым сезоне адбылася, напэўна, самая скандальная падзея. Хатні матч на свята 3 ліпеня (0:1 супраць МАЗа) сабраў шмат балельшчыкаў. Арбітр зафіксаваў спрэчнае ўзяцце нашых варот і не залічыў гол "Спартака" ў адказ. З-за гэтага разгарачаныя аматары футбола акружылі раздзявальні, а некаторыя пайшлі дзяжурыць на чыгуначную станцыю. Ветэраны "Спартака" расказваюць, што суддзя залез пад стол, каб яго не ўбачылі з акна, і прасіў паратунку, маўляў, двое дзетак гадуецца. Прыйшлося Адзінцову тэлефанаваць у вайсковую часць. Пераапрануты ў ваенную форму небарака выскачыў праз акенца і быў адвезены салдатамі на "Ушу". Тым часам самыя буйныя фанаты западозрылі, што ён хаваецца ў пажарнай машыне, спынілі і нават разламалі яе. Некаторыя трапілі пад суд, а да Шувалава і Адзінцова за незабеспячэнне парадку былі прыменены дысцыплінарныя санкцыі. Гэта падзея прадэманстравала, якой папулярнасцю ў горадзе карыстаецца футбол і як уважліва трэба ставіцца да ўсіх праяўленняў такой сацыяльнай з'явы.

У 1962 годзе сярод дзесяці каманд у зоне занялі другое месца. Баланс фінальнай пулькі з удзелам васьмі каманд быў такім: +6=5-3 26-18. Першынстваваў сталічнае "Тарпеда", а трэцім, як год таму, быў "Спадарожнік".

Успамінае Уладзімір Васаган:

— У адной з самых важных для нас сустрэч 1962 года я не забіў пенальці. Я часта выконваў адзінаццаціметровыя, і мы з Зайцавым пастаянна трэніраваліся: заўсёды біў у правую дзевятку з пад'ёму – так звычайна не б'юць. У тым матчы, відаць, падвялі нервы – нага неяк вывернулася, і ўдар не атрымаўся".

**Працяг будзе.**

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

# ВІНШАВАНКІ

З днём нараджэння!
**Святлане Драгун.**
Дарагая наша! Сардэчна віншуем! Няхай жыццё заўсёды дорыць табе здароўе, шчасце і ўдачу.

Хоть родилась ты в зимний день,
Возможно, снежный и ненастный,
Но на лице твоём всегда
Улыбка светится прекрасно.
Пусть в меру радость, в меру грусть,
Снега и холод тоже в меру.
Но только счастье будет пусть
Всегда бескрайним и безмерным.
Пусть будет всё: гроза, метели,
Пусть будет радость и покой.
А если очень будет трудно,
То знай, что мы всегда с тобой.

*З любоўю мама, тата, сястра Оля, Наташа і іх сем'і.*

**Сцяпан Рыгоравіч Філіпоўскі**! З юбілеем цябе віншуем. Шмат радасці, шчасця жадаем. *Твая дачка Ала і ўся сям'я.*

**Святлану Іосіфаўну Драгун** шчыра віншуем з днём нараджэння! Жыві сто год без бед. Здароўя моцнага табе. *Пляменнікі.*

**Кацярыну Зянько** і **Дзмітрыя Серадзінскага** віншуем са шлюбам. Жадаем шчасця, кахання і сямейнага дабрабыту. *Сям'я Варанько.*

**Нона Канстанцінаўна Чаеўская**! Віншую з днём нараджэння! Жадаю моцнага здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, даўгалецця. *Наталля.*

**Марыну Чаўлытку** віншуем з днём нараджэння. Жадаем усяго самага яскравага, сонечнага, добрага! *Сябры і калегі.*

**Марыну Чаўлытку** віншую з днём нараджэння. Жадаю ўсяго найлепшага, шчасця і кахання. *Ад чалавека, што жыве побач.*

**Вольгу** і **Ігара Касцевічаў** з 4-годдзем сумеснага жыцця. Моцнага і доўгага кахання. *Кума Света.*

**Валянцінку Касцевіч** віншую з днём нараджэння. Расці здаровенкай і паслухмянай дзяўчынкай. *Хросная мама.*

**Алачку Валынец** віншуем з 40-годдзем. Моцнага здароўя, шчасця, кахання, усмешак, шмат грошай. *Сям'я Шафігуліных.*

**Юлю Сюдак** віншую з днём нараджэння. Шчасця, здароўя, поспехаў у вучобе! *Маша Юшкевіч.*

Маладзечанскі турклуб "Пілігрым" віншуе з днём нараджэння **Алену Зайкоўскую** і **Вячаслава Вянглоўскага**. Жадае цудоўнага настрою, моцнага здароўя і новых паходаў.

**Святлану Гарбузаву** віншуем з 40-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця, кахання, усмешак, шмат грошай. *Сям'я Абрамчук.*



**Дарагі Міша**!
Тебя я обожаю
Всё крепче с каждым днём,
И всё, чего желаю, -
С тобою быть вдвоём!
Печалюсь и тоскую,
Когда ты не со мной,
И лишь тебя люблю я
Всем сердцем и душой.
*Твая Наташа Скапец.*

**Антаніну Кандраценку** і ўвесь цэх №12 завода "Спадарожнік" віншую з Днём святога Валянціна! Здароўя і кахання. *Рэгіна.*

**Ганначку**, **Леначку** і **Яначку**, нашых анёлкаў, віншуем з Днём святога Валянціна! Спагадлівых людзей, поспехаў, кахання. *Дзеці, моладзь.*

**Сям'ю Ляшкевічаў** віншуем з Днём святога Валянціна! Жадаем, каб заўжды ў вас панавала каханне. *Чараповічы.*

**Насцечку Жаўнярові**ч віншую з Днём святога Валянціна! Жадаю знайсці сапраўднае каханне. *Твая сяброўка Ганначка.*

**Настаўнікаў Вілейскага каледжа** віншуем з Днём святога Валянціна! Жадаем моцнага кахання і сямейнага дабрабыту. *Навучэнцы гр. 3 "АК".*

**Вольгу Дарафееву**, **Алену Герко** і **Вольгу Рогач** з Днём святога Валянціна! Кахання вам, сябры! *Ваша Ганначка.*

**Іну Амельчанку**, **Алену Рогач**, **Надзею Сакалоўскую** з Днём святога Валянціна! Поспехаў, шчасця і кахання. *Ваша Ганначка.*

**Вераніку Юшкевіч** віншую з днём усіх закаханых. Не сядзі дома, а шукай сваю палавінку. *Маша.*

**Рэдакцыю "Лілеі"** віншую з Днём святога Валянціна. Жадаю кахання, шчасця, незалежнасці, цярпення, поспехаў. *Марыя Юшкевіч.*

**Валянціна Цішко** віншую з Днём святога Валянціна! Кахання і новых ідэй. *Святлана.*

**Машу Юшкевіч** віншую з Днём святога Валянціна! Жадаю знайсці сваю другую палавінку. *Твая сястра Вераніка.*

**Ірынка Пракопчык**, з днём закаханых цябе! Каб падзеі гэтага дня ўплывалі не толькі на настрой, але і на будучыню. *Паклоннік.*

**Сяргей Аляксандравіч**! Час трапляць у рамантычныя моманты! З днём закаханых Вас. *Валянціна Валер'еўна.*

**Наташу Цярэшку** віншую з Днём святога Валянціна! Кахання, кахання і яшчэ раз кахання! *Ад сябра.*

**Мыш**! З днём закаханых цябе! *Твой тыл.*

Любых **жонку**, **дачку**, **маці**, **цешчу** віншую з Днём святога Валянціна. *Ігар Кіцікаў.*

**Святлану Саўлевіч** і **Арнольда Цэзаравіча** віншую з Днём святога Валянціна! Здароўя, кахання і дабрабыту! *Рэгіна.*

**Любімага мужа Мікалая** віншую з Днём святога Валянціна. Здароўя, шчасця і дабрабыту табе, родны. *Ірына.*

**Аленка** і **Ігар Ляхі**! З юбілеем шлюбу і Днём святога Валянціна! Шчасця і кахання. *Рэгіна.*

**Сям'ю Гаруновіч** з в. Краснае віншуем з Днём святога Валянціна. Шчасця, здароўя і дабрабыту вам. *Ірына, Мікалай.*

**Яўген Ляпцюк**! Дарагі муж! З Днём Валянціна! Здароўя, удачы, шчасця! *Рэгіна.*

**Сем'і Мейсак** і **Крэнць** з в. Турэц-Баяры віншуем з Днём святога Валянціна. Сямейнага дабрабыту вам. *Сям'я Бондараў.*

**Галіну Дземідовіч**! З Днём Валянціна! Здароўя, шчасця, кахання! *Рэгіна.*

**Яніну Рудкевіч**, **Лілю Шукайла**, **Ганну Карповіч**, **І. А. Сароку** і ўсіх маіх дарагіх дзяўчат віншую з Днём святога Валянціна! *Рэгіна.*

**Валянціну** віншую з Днём святога Валянціна. Жадаю вялікага шчасця і знайсці сваю палавінку. *Незнаёмец.*

**Ніну Грыневіч**, **Святлану Гудзебскую**, **Вольгу Малафей**, **Марыну Сіляўку** з Днём святога Валянціна! Здароўя і кахання. *Рэгіна.*

**Дарагі** і **любімы** сыночак і брат **Віктар**! Сардэчна віншуем цябе з Днём святога Валянціна і днём нараджэння! Жадаем табе ўзаемнага кахання, шчасця і удачы! *Мама і сястра Алена.*

**Зою** і **Тарэску Пішчаку** віншую з Днём святога Валянціна! Здароўя, шчасця, удачы і кахання. *Рэгіна.*

**Таццяну Шарафановіч** з Вілейкі віншую з Днём святога Валянціна! Сонейка, я цябе моцна кахаю. *Сяргей.*



■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



У кожнай гаспадыні свае сакрэты на кухні. Фота ByMedia.net

# Варым суп «па-навуковаму»

**Пытанне як быццам бы дзіўнае, але не для марнавання часу, у чым вы пераканаецеся.**

Адразу патлумачу: пад уменнем у дадзеным выпадку маюцца на ўвазе не кулінарныя таленты гаспадыні, а веданне ёю асноўных правілаў апрацоўкі прадуктаў з тым, каб яны максімальна захавалі вітаміны, пажыўныя рэчывы, не страціўшы пры гэтым сваіх смакавых якасцей.

...Вы вельмі спяшаецеся і таму паклалі мяса для булёна ў кіпень. Дарэмна: самае каштоўнае ў булёне – экстрактыўныя рэчывы, якімі багаты мясны навар, а яны лепш захоўваюцца, калі мяса пакласці ў халодную ваду, давесці да кіпення і варыць на слабым агні. Не варта адымаць у булёна карысныя якасці, якіх у ім і так няшмат: тэта ж, каб пазбегнуць непрыемнага прысмаку, нам даводзіцца здымаць пену, а яна ж утрымлівае шмат карысных бялкоў! Вось таму, каб страва атрымалася больш пажыўнай, сытнай і карыснай, булён запраўляюць агароднінай, крупамі. Буракі, цыбулю, моркву кладуць хвілін за 30-40 да заканчэння варкі, бульбу, крупы – за 15-20 хвілін, спецыі – за 5-10 хвілін, свежую зеляніну – толькі каб добра пракіпела.

А вось мяса, агародніну для другіх страў якраз трэба варыць адразу ў кіпені. Пры гэтым, калі мяса замарожанае, яму неабходна даць адтаяць і толькі затым добра вымыць і варыць. А замарожаную рыбу і агародніну, наадварот, трэба не размарожваць і варыць. Вады патрабуецца ўзяць роўна столькі, каб пакрыла прадукты. А яшчэ больш карысці прыносяць прадукты, звараныя на пары ці прыпушчаныя. На пары гатуюць стравы з мяса, рыбы, бульбы, прыпускаюць галоўным чынам агародніну: нарэзаўшы скрылькамі ці кубікамі, яе ўкладваюць у скавараду ці каструлю слоем не больш за 5 см, дадаюць трохі вады ці булёну, 20-30 г тлушчу на 1 кг агародніны, закрываюць накрыўкай і вараць 15-20 хвілін. Пры гэтым вадкасць ператвараецца ў пару і варка па сутнасці адбываецца ў пары. Пры такіх спосабах апрацоўкі прадукты лепш захоўваюць пажыўныя рэчывы, у іх менш ўтвараецца хімічных і механічных раздражняльнікаў, таму іх часта выкарыстоўваюць у лячэбным харчаванні.

**Проста МАРЫЯ.**

**Заканчэнне будзе.**



# ЗНАЁМСТВЫ

Жанчына пазнаёміцца з самастойным мужчынам да 40 гадоў. 231000, Смаргонь, вул. Першамайская, д.28 (Марыя).

Мужчына, 50/170/70, пазнаёміцца з жанчынай. Жыллё ёсць. 222310, Маладзечна-6, п/п МС 0367626.

Жанчына, 36/167/57, пазнаёміцца з мужчынам без шк./зв. для стварэння сям'і. 222310, Маладзечна, п/п МС 0651415.

# Кінатэатр «Радзіма»

**13-15 лютага. "Піраты Карыбскага мора"**, ЗША, прыгоды, 2 серыі – у 18.30 і 21.00.
**Прэм'ера. "Навагодні паштальён"** (Станцыя "Поўнач"), Канада, фільм-казка – у 10.00, 12.00, 14.00 і 16.00.
**16-22 лютага. "Двайны фарсаж"**, ЗША, баявік – у 17.00, 19.00 і 21.00.
**Для дзяцей**
**14, 15 лютага. "Кракадзіл Гена"**, Расія, мультфільм – у 13.00.
Кожную суботу ў 21.00 – дыскатэка.
Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

# Купон 7

Рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

## Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно

Вітаю вас! На гэты раз пачну адразу з адказаў на заданні мінулага выпуску. Наконт першай задачкі шмат хто пытаўся: "Ці праўда, што буханкі хлеба не трэба дзяліць?". Не, не трэба! Правільны адказ такі: у булачнай было 7 буханак хлеба, 4 купіла першая жанчына, 2 – другая і 1 – трэцяя. А правільны адказ на другое заданне такі: так, існуюць такія лікі, сума лічбаў у якіх не змяняецца пры памнажэнні на лікі 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, гэта 45 і 90. Дзякуй усім, хто не паленаваўся і даслаў у рэдакцыю свае адказы, але ж сярод іх з двума заданнямі справіліся толькі тры чытачы з Маладзечна: **Юрый Юхневіч, Ірына Шастоўская і Аляксандр Купрыновіч**. Калі ласка, завітайце да нас за білетамі ў кінатэатр.

Сёння азадачваць вас будзе **Аляксей Шчасны** з Маладзечна.

1. Кожная з шасці палосак з лікамі перасоўваецца ў гарызантальным напрамку. Трэба перасунуць палоскі так, каб атрымалася дзесяць вертыкальных радоў (поўных ці няпоўных), а сума лікаў у кожным з іх раўнялася б 15.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 4 | 9 | 0 | 5 | 1 |
| 3 | 1 | 4 | 5 | 14 | 9 |
| 7 | 1 | 5 | 0 | 2 | 3 |
| 3 | 2 | 4 | 1 | 6 | 15 |
| 6 | 3 | 2 | 4 | 1 | 5 |
| 8 | 2 | 3 | 1 | 5 | 0 |

2. Трэба з пункта А да пункта Б прайсці так, каб сума склала а) 250; б) 350.

39 16 46 27
24 31 17 21 52
А 13 35 11 14 Б
43 21 53 63 15
76 19 48 12

Дзякуй Аляксею за заданні, адказы на іх прымаюцца да 20 лютага. Будуць разыграны 3 білеты. Чакаю ад вас лістоў з цікавымі задачкамі, рэбусамі, крыжаванкамі, магчыма, менавіта яны з'явяцца ў нашых наступных выпусках.



Падрыхтавала Аксана КУЛЕЎНІЧ.

■ ІМЯНІНЫ

**13 лютага**
**Праваслаўныя**: Віктара, Івана, Кіра, Клаўдзія, Мікіты, Нікіфара.
**Каталіцкія**: Катарыны, Рыгора.
**14 лютага**
**Праваслаўныя**: Фядоссі, Пятра, Трыфана.
**Каталіцкія**: Валенты, Зянона, Кірылы, Мяфодзія.
**15 лютага**
**Праваслаўныя**: Грамніцы (Стрэчанне Гасподняе) Анісіма.
**Каталіцкія**: Зігфрыда, Фаўстына, Юзафа.
**16 лютага**
**Праваслаўныя**: Ганны, Мікалая, Рамана, Сямёна, Уласа.
**Каталіцкія**: Данута, Юльяны.
**17 лютага**
**Праваслаўныя**: Абрама, Георгія, Кірылы, Мікалая, Сідара, Юрыя.
**Каталіцкія**: Збігнева, Лукаша, Юльяна.
**18 лютага**
**Праваслаўныя**: Агафіі, Макара, Фядота.
**Каталіцкія**: Канстанцыі, Сымона.
**19 лютага**
**Праваслаўныя**: Марыі, Марфы, Хрысціны, Максіма, Феафіла, Юльяна.
**Каталіцкія**: Конрада.

